PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 25 (1988) ГОД XXXIX БЕЛАСТОК 19 ЧЭРВЕНЯ 1994 г. ЦАНА 4000 зл.

*ГАННА КАНДРАЦЮК*

## ХТО НАВУЧЫЦЬ ПОЛЬСКАЙ І РУСКАЙ?



*Вучні з Сакоў з настаўніцай Яўгеніяй Васілюк.*

**Школу ў Саках,**

што надалёка Кляшчэляў пабудавалі ў 1955 годзе. У 60-х гадах вучылася тут звыш 200 школьнікаў. Навучанне адбывалася на дзве змены. У 1968 годзе школу разбудавалі. Новы будынак узводзілі грамадскімі сіламі. Будынак, праўда, пабудавалі, але неўзабаве быў неабходны грунтоўны рамонт. Урэшце ў 1987 годзе абодва будынкі спалучылі новым павільёнам. Паўстаў прыгожы, быццам новы, нетыповы архітэктурны комплекс. Зараз школа напамінае польскі шляхецкі „дворэк". Школа навокал упрыгожана магутнымі ёлкамі, ліпамі, рабінай і жывой агароджай. Цэласць аддае непаўторную гарманічную кампазіцыю. Навокал вёскі лясы і сакавітая зелень. Самая вёска дагледжаная, хаця ў палове апусцелая і старэючая. Пры школе трохі зямлі. Большая частка гэта лес. Дзеці збіраюць там „свае" грыбы. Растуць тут пераважна шляхетныя іх віды. Зараз (30 мая) паказаліся краснюкі і ўхачы.

У самым будынку адбыліся таксама грунтоўныя перамены. Былі пастаўлены санітарныя абсталяванні, цэнтральнае ацяпленне, новыя памосты. У школе фізкультурная зала, бібліятэка, чытальная зала, два каляровыя тэлевізары і камп'ютэр. На перапынках дзеці могуць карыстацца друкаркай і камп'ютэрам. Самі ўжо друкуюць тэксты для школьных насценгазетак.

Зараз

**у школе толькі 53 вучні.**

— Пакуль што няма пагрозы, што школа перастане існаваць. Школа ў Кляшчэлях яшчэ не пабудаваная, а старая не ўзмозе нас прыняць, — кажа дырэктар школы Аліна Вежба.

У вёсках няма надзеі на павелічэнне колькасці дзяцей. У апошнім часе ў суседнія Тапаркі вярнуліся з Беластока маладыя сем'і. У Саках таксама яшчэ гэтыя справы выглядаюць не найгорш. Але ў недалёкіх Сухавольцах на сто хат толькі тры маладыя сужонствы, у Залешанах — адно.

— Усё больш і больш у нас дзяцей слабых. Ёсць таксама дзеці з „паталагічных" сем'яў. Але ў школе, пакуль што, няма ні наркаманіі, ні курэння ці запою сярод дзяцей, — кажа пані дырэктар.

Нават у настаўніцкім пакоі ніхто папяросаў не курыць.

На 53 дзетак 42 вывучае праваслаўную рэлігію. Беларускай мове вучыцца 27 асобы.

**Выкладаюць яе 4 настаўнікі:**

Яўгенія Васілюк, Славамір Трашчотка, Васіль Сахарчук і Міхал Гапанюк. Сярод настаўнікаў ёсць беларусіст. Ён, як адзін у школе, мае таксама спецыялізацыю па польскай і рускай мовах. Настаўнік хацеў бы навучаць беларускай мове, але ёсць праблема.

— Хто тады будзе вучыць польскай і рускай мовам? — кажа ён.

— Куратoрыя не згодзіцца, каб выпадковыя людзі вучылі польскай ды рускай мовам, — паясняюць настаўнікі.

Трох настаўнікаў навучаюць беларускай мове „па ліцэі".

Усе настаўнікі наогул згодны, што быць настаўнікам толькі беларускай мовы — гэта безнадзейная справа. Увесь час існуе пагроза, што гэты прадмет „дзісь ёсць, заўтра не будзе". Да таго ж штодзень сустракаецца армія беспрацоўных беларусістаў, якія бяруцца нават за працу прыбіральшчыц. Таксама ў народзе бытуе комплекс горшасці беларускай мовы.

☞ *Працяг на стар. 5*



*Дырэктар школы Аліна Вежба.*



*Настаўнікі Васіль Сахарчук і Славамір Трашчотка.*

# ВЫБАРЧАЯ ПАНАРАМА

## АДОЗВА Галоўнай Рады Беларускага Дэмакратычнага Аб'яднання

**Жыхары Беласточчыны!**

Перад намі дэмакратычныя выбары ў тэрытарыяльныя самаўрады. Ад пяці гадоў жывем у зменeнай грамадска-палітычнай сітуацыі, калі трэба самім змагацца за свае справы.

У мінулым у нас былі дасягненні, але таксама і страты. Цяпер моцна адчуваем нястачы. Турбуюць нас праблемы. Мусім палепшыць сваё жыццё. Многае будзе залежаць ад гмінных уладаў, што выбярэм. Раднымі павінны стаць людзі, якія патрапяць правільна вырашаць праблемы. Для таго скарыстайма свой разважлівы голас у дэмакратычных выбарах.

На маляўнічай Беласточчыне супольна жывуць каталікі і праваслаўныя; палякі і беларусы. Трэба жыць дружна. Неабходна любіць сваё ды шанаваць іншых. Нельга губляць уласныя вартасці і нельга ставіцца варожа да суседзяў.

**Беларусы!**

Сярод нас ёсць сумленныя і талковыя. Выбраўшы такіх у гмінныя рады, менш будзем наракаць на іншых. Беларускіх кандыдатаў у самаўрады знойдзеце на спісках Выбарчага Камітэта Праваслаўных у Беластоку, а таксама на многіх спісках выбарчых камітэтаў у гмінах усходняй часткі Беласточчыны. Памятайма, што ў нас ёсць каштоўнасці: родная зямля, Праваслаўная Царква, свая культура. Мусім гэтым даражыць!

Актыўным удзелам у выбарах ды правільным выбарам палепшым наш лёс. Мы вартыя лепшай будучыні!

### Чыжы — 38 кандыдатаў

Чыжоўская Гмінная рада налічвае 15 чалавек. У гміне 15 аднамандатных выбарчых акруг, з чаго тры акругі ў самых Чыжах ды столькі ж у Кленіках. Усіх кандыдатаў зарэгістравалася 38. Ніводзін з іх не падпісаўся шыльдай палітычнай партыі ці грамадскай арганізацыі. У адной толькі акрузе — Кленікі — зарэгістраваўся адзін кандыдат; ва ўсіх іншых па два і болей, а ў Чыжах нават і пяць на адно месца ў Радзе. Са старой Рады ў выбары ідзе дзесяць чалавек. Галасаванне будзе праходзіць агулам у чатырох выбарчых участках.

Гмінная рада, кадэнцыя якой праходзіць, — заўважае войт Рыгор Мацкевіч, — спрыяла культуры. У той час, калі ў іншых раёнах праходзіла ліквідацыя клубаў і бібліятэк, у нас утрыманы былі ўсе гэтыя ўстановы. Што ж, найлягчэй абрэзваць бюджэт на культуру, але

☞ *Працяг на стар. 3*

 

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Waldemar Pawlak lubi stylizować się na prawdziwego syna polskiej wsi. Dużo czasu spędza w kościołach, co ma potwierdzić jego przywiązanie do ludowego katolicyzmu. Wprawdzie nie obwiesza jeszcze swego garnituru rozmaitymi emblematami religijnymi, jak czyni to Wałęsa, to jednak przyznajmy, że ów były komunistyczny działacz młodzieżowy posunął się dość daleko w publicznym demonstrowaniu swoich uczuć religijnych.*

*(Kurier Poranny, nr 96)*

* * *

*Wynagrodzenie prezesa Zarządu państwowej spółki „Polska Miedź" wynosi 80 mln. zł. miesięcznie. Wiceprezesi mają po 72 mln, a członkowie Zarządu 64 mln. Raz na 3 miesiące przysługuje im premia w wysokości 99 proc. miesięcznej płacy.*

*(Nie, nr 20)*

Ну і хто так пакрыўдзіў спадароў прэзасаў? Чаму прэмія толькі 99 прац., а не 100 ці 120? Проста жах!

* * *

*Dzisiejsze wojsko białoruskie — to ogromna struktura przestępcza. Kierownictwo zajmuje się wyłącznie kradzieżą i handlem własnością wojskową, rozpoczynając od drobiazgów, kończąc na samolotach, czołgach, rakietach,* — сказаў кандыдат на пост прэзідэнта Беларусі Аляксандр Лукашэнка польскамоўнаму тыднёвіку

*Głos znad Niemna (nr 16)*

* * *

***Я хацеў бы павіншаваць усіх камуністаў, манэкеншчыц і нізкааплочваных прастытутак з падзеньнем і развалам іхняе дзяржавы СССР,*** — піша Адам Глёбус.

***(Свабода, н-р 19)***

* * *

*Wymowa ostatnich strajków „Solidarności" jest taka: niech będzie tak jak w socjalizmie, tyle tylko, że dla niepoznaki nazwiemy go kapitalizmem.*

*(Polityka, nr 21)*

Іх таварышы з Камуністычнай партыі Кітая прынялі іншую тактыку — поўным махам будуюць капіталізм. Маюць яны найвышэйшыя паказчыкі гаспадарчага развіцця.

У Азіі нават бальшавікі перасталі знішчаць гаспадарку.

* * *

***У 16 гадзін можна паесці ва ўсім свеце, акрамя Беларусі. У Магілёве, напрыклад, пасля 16 адказваюць галодным: „Рэстаран працуе толькі для сябе".***

***(Наша слова, н-р 3)***

Кіраўнік рэстарана, кухаркі, афіцыянткі мусяць таксама спакойна паесці ды выпіць чарку. У дэмакратычнай дзяржаве кухарка мае свае правы, а ў самай дэмакратычнай — можа нават ёю кіраваць.

* * *

*Lech Wałęsa ma tę wielką zaletę, że często mówi to co myśli.*

*(Polityka, nr 11)*

* * *

*Masowe masakry, wojny domowe, karawany uchodźców, przerażające dane o gospodarce obrazują upadek Czarnej Afryki. W Afryce zachodzą procesy politycznego rozkładu, które wydają się wymykać spod wszelkiej kontroli. W 1988 r. tylko z powodu spadku cen surowców i zadłużenia zmarło w Afryce 320 tys. dzieci.*

*(Rzeczpospolita, nr 121)*

Калі ў Еўропе загіне 10—15 асоб, пішуць пра гэта ўсе газеты і да таго з першай старонкі. Калі ў Афрыцы ў адзін дзень гіне 100 тысяч, тады з'яўляецца нейкая нататка на перадапошняй старонцы. А правы чалавека, а маральнасць! — яны ні пры чым, калі за імі не стаяць грошы.

* * *

*Wielkie państwowe przedsiębiorstwa, często deficytowe, pozostały nienaruszone. Tworzą one siłę zdolną do zahamowania reform i pchnięcia Polski w kierunku tzw. trzeciej drogi, czyli drogi do nikąd. Przywódcy związkowi nie chcą tworzyć nowego rządu. Chcą jedynie, aby każdy rząd, każdy parlament spełniał ich postulaty.*

*(Wprost, nr 19)*

Палітолагі, пэўна, задумоўваюцца, як назваць такую сістэму: капіталістычны камунізм, ці камуністычны капіталізм?

* * *

*W 25-tysięcznej Hajnówce siedemdziesiąt procent mieszkańców stanowią prawosławni. Tę religię wyznają podobno ojcowie miasta.*

*(Kurier Poranny, nr 96)*

З Гайнаўкі плывуць інфармацыі, што „бацькі горада", якіх прозвішчы сапраўды канчаюцца на „-ук" рашуча пратэстуюць. Ходзяць чуткі, што заяву ў гэтай справе мае выдаць сам ксёндз пробашч. Хлопцы ўжо даўно перахрысціліся, сталі паўнацэннымі грамадзянамі Рэчыпаспалітай, а тут такія закіды недаіфармаванага беластоцкага журналіста! За камуністаў штосьці такое не здаралася; хапала метрыкі сапраўднага хрышчэння.

* * *

***Мяркуецца пабудаваць дзве польскія школы ў Гародні і адну ў Ваўкавыску.***

***(Свабода, н-р 18)***

У Беластоку беларускія дзеячы ўжо некалькі гадоў стараюцца стварыць клас, у якім як адзін з прадметаў навучалася б беларуская мова. Пакуль што без поспехаў.

* * *

***Адносіны Беларусі з Расеяй павінны быць сяброўскімі, але як адносіны дзяржавы з дзяржавай, а не калоніі з метраполіяй.***

***(Беларусь, н-р 4)***

* * *

*Z rubryki „We dwoje":*

*Małgorzata lat 37. Jestem panną katoliczką. Czekam na wiadomość od wysokiego katolika.*

*Joanna lat 52. Nie znoszę kłamstwa. Chcę poznać kawalera do lat 70, ponieważ chcę wziąć ślub kościelny.*

*Tadeusz lat 28. Mieszkam blisko lasu. Pragnę poznać pannę z dzieckiem.*

*(Kurier Poranny, nr 96).*

# З мінулага тыдня

**Польшча** мае шанц падвоіць да 1997 года гандлёвы абарот з Усходам, аднак павінна яна весці намнога больш актыўную гаспадарчую палітыку. „Калі мы не будзем супрацоўнічаць, прыстасоўваючыся да тамашніх варункаў, не будзем прысутнымі на ўсходніх рынках", — заявіў **Леслаў Падканскі** — міністр гаспадарчага супрацоўніцтва з заграніцай.

**Бізнесу ў Польшчы** ў большай ступені спрыяюць палітыкі папярэдняй урадавай кааліцыі, чым сённяшняй — аб гэтым сведчаць вынікі апытання, праведзенага **Фондам бізнесу і сацыялагічнай службай „Бэйзік Дэмаскоп"**. Сярод асоб, якія ў найбольшай ступені шкодзяць бізнесу ў Польшчы, найчасцей называюцца **М. Кшаклеўскі, Л. Валэнса, В. Паўляк, Б. Пэнк, Р. Бугай, Л. Мілер і Л. Мачульскі.**

**Еўрапартэнарыят** — вялікая сустрэча еўрапейскіх прадпрымальнікаў упершыню адбылася ў Цэнтральнай Еўропе — у Гдыні. Удзел у спатканні прынялі 1690 фірм з Заходняй Еўропы і 400 малых і сярэдніх польскіх прадпрыемстваў. Мэта гэтага мерапрыемства — шуканне гандлёвых партнёраў у іншых краінах і падтрымка гаспадарчага супрацоўніцтва.

**Ветэраны**, згуртаваныя ў Пагадненні ветэранскіх незалежніцкіх арганізацый і Сакратарыят цэнтрысцкіх і правых груповак супрацьставіліся запрашэнню прэзідэнтаў **Расеі і Нямеччыны** ў Польшчу на святкаванне 50 гадавіны Варшаўскага паўстання. „Аб прымірэнні і запрашэнні правадыроў Расеі і Нямеччыны будзе можна падумаць толькі тады, калі Польшча атрымае ад урадаў гэтых дзяржаў дакументы, у якіх змесце будзе змешчана сцвярджэнне, што напалі яны на Польшчу. У гэтых дакументах неабходныя словы просьбы прабачэння", — заявілі ветэраны.

**На пляжы Амаха** адбыліся галоўныя ўрачыстасці з выпадку 50 гадавіны высадкі войскаў у Нармандыі. У святкаваннях прынялі ўдзел галовы дзяржаў і кіраўнікі ўрадаў краін, якія паўстагоддзя таму ўваходзілі ў састаў антыгітлераўскай кааліцыі і якіх салдаты змагаліся на палях Нармандыі. Ва ўрачыстасцях прысутнічалі, між іншым, прэзідэнты ЗША **Біл Клінтан**, Францыі **Франсуа Мітэран** і Польшчы **Лех Валэнса**, а таксама брытанская каралева **Елізавета II.**

**Ва ўрачыстасцях з нагоды 50 угодкаў высадкі** кааліцыйных войскаў у Нармандыі прынялі ўдзел толькі два беластаччане. Польскі ўрад не сфінансаваў падарожжа ўсім ветэранам. Паездку для двух беластоцкіх ветэранаў аплаціў французскі бок.

**Прэм'ер-міністр Вальдэмар Паўляк**, адкрываючы ў Тарнаве II Сусветны **форум паланійнага друку**, звярнуўся да 150 журналістаў з 23 краін свету з заклікам наладжваць непасрэдныя кантакты з радзімай.

**З нагоды Міжнароднага дня дзіцяці** ў будынку Сейма адбылося пасяджэнне дзіцячага парламента. Удзельнікі нарады, амаль 500 дзяцей і моладзі з усёй Польшчы, заклікалі правячыя колы праяўляць добрую волю, вырашаць канфлікты, спыніць войны і ўстанавіць мір ва ўсім свеце.

**У Беластоку** быў адкрыты **помнік папу Яну Паўлу II.** Манумент узведзены ў трэцюю гадавіну папскага візіту ў горадзе на Бялцы. Помнік асвяціў апостальскі нунцый арцыбіскуп **Юзэф Кавальчык.**

**Пачаліся ўступныя экзамены** ў вышэйшыя навучальныя ўстановы Беластока. На факультэце русістыкі Філіяла Варшаўскага універсітэта, дзе чакае 80 свабодных месц, замест экзаменаў адбудуцца кваліфікацыйныя размовы.

**Да 2000 года** кожная сям'я ў Польшчы будзе мець уласны тэлефон, — заявіў на прэс-канферэнцыі ў Варшаве міністр сувязі **Анджэй Зялінскі**. На працягу апошніх чатырох гадоў колькасць тэлефонаў на 100 жыхароў павялічылася з 8 на 12. Паведаміў ён таксама, што ў будучым аплата за тэлефонныя размовы панізіцца.

**Гмінная рада ў Мельніку** вырашыла стварыць на сваёй тэрыторыі ландшафтна-прыродны запаведнік „Глогі". Плошча яго — 60 гектараў і займае ён лясныя і палявыя абшары ў граніцах мясцовасці Мельнік. Адметнасць запаведніка — пасляледніковыя ўзгоркі парэзаныя сеткай маляўнічых яраў і рэдкая ксератэрмічная расліннасць.

**У Бельску-Падляшскім** у памяшканне Управы гміны ўвайшлі злачынцы. Зламаўшы дзверы пакоя і шафу, зладзеі вынеслі кніжачкі штрафных мандатаў, чатыры газавыя пісталеты і 180 пашпартных бланкаў (dowodów osobistych). А на **Семяноўскім вадасховішчы** заблытаўся ў сеці і ўтапіўся 37-гадовы рыбак-браканьер — жыхар адной з навакольных вёсак.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

- Праблемы з камасацыяй зямлі ў Кляшчэлеўскай гміне.
- Успаміны Мацея Канапацкага пра Віленскую гімназію.
- Уладзімір Сідарук аб шкоднасці алкагольных напіткаў.
- Выстаўкі, фэсты, семінары.



# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

### Пратэст пісьменнікаў і журналістаў

Беларускі аддзел Міжнароднай арганізацыі незалежных пісьменнікаў і журналістаў прыняў наступную заяву: „Беларускі ПЕН-Цэнтр канстатуе, што органы друку і іншыя сродкі масавай інфармацыі, якія ў рознай ступені выяўляюць іншадумства або прытрымліваюцца апазіцыйных поглядаў, паслядоўна ліквідоўваюцца дзяржаўнымі органамі кіравання ў парушэнні свабоды друку і права грамадзянаў Беларусі на інфармацыю. Так, газета „Навіны БНФ" страціла права на выпуск і фактычна ліквідавана, бо фармальна парушыла абвешчаную перыядычнасць. Патрабаванне рэгістраваць тэматыку і перыядычнасць пры атрыманні дзяржаўнай ліцэнзіі — антыдэмакратычнае па сутнасці. Такім чынам урад пазбавіў апазіцыю права голасу напярэдадні выбараў. Папулярная радыёстанцыя „Беларуская маладзёжная" фактычна ліквідавана пад прэтэкстам рэарганізацыі Дзяржтэлерадыё. Закрыццё „Беларускай маладзёжнай" прыводзіць да поўнага інфамацыйнага безбалансу перад выбарамі. Газета „Свабода" таксама пад пагрозай. Беларускі ПЕН-Цэнтр пратэстуе супраць парушэнняў свабоды друку і права на інфармацыю грамадзянаў Беларусі і лічыць, што такімі захадамі ўлададаўцаў зневажаюцца агульнапрынятыя ў свеце правы кандыдатаў і выбаршчыкаў. Беларускі ПЕН-Цэнтр звяртае ўвагу міжнароднай грамадскасці і праваабарончых арганізацый на факты парушэння правоў і свабоды журналістаў і грамадзянаў Беларусі".

### З'езд студэнтаў

У Менску прайшоў з'езд Беларускага задзіночання студэнтаў, на якім быў прыняты зварот да моладзі Беларусі ў сувязі з маючымі адбыцца прэзідэнцкімі выбарамі. У дакуменце змяшчаецца заклік заняць актыўную грамадзянскую пазіцыю, якая дазволіць вырашыць лёсы краіны. На з'ездзе таксама прынята заява-пратэст з нагоды закрыцця радыёстанцый „Беларуская маладзёжная" і „Крыніца". У фармальнай рэарганізацыі структур дзяржаўнага радыё аўтары заявы бачаць імкненне кіраўніцтва Дзяржтэлерадыё пазбавіцца ад няўгодных журналістаў. „Патрабуем аднаўлення ў эфіры паважаных намі і шырокай маладзёжнай аўдыторыяй радыёстанцый і захавання ў былым складзе іхніх творчых калектываў", — пішацца ў заяве.

### Псіхічная атака

Пасля таго, як старшыня праўлення Нацыянальнага банка Беларусі Станіслаў Багданкевіч назваў на прэс-канферэнцыі пагадненне аб аб'яднанні грашовых сістэм Беларусі і Расеі мёртванароджаным дзіцём, на яго асобу пачалася псіхічная атака. Следам за Славянскім саборам „Белая Русь", які запатрабаваў ад Вярхоўнага Савета неадкладна зняць з пасады старшыню Нацбанка, да гэтага патрабавання далучыўся і Народны рух Беларусі, абвінаваціўшы галоўнага банкіра краіны ў глыбокім крызісе фінансавай сістэмы. Акрамя таго ў віну ставіцца яшчэ і факт, што неадабраючы фінансавы саюз з Расеяй, ён падтрымлівае празаходнія нацыянал-радыкальныя палітычныя сілы. Па словах Станіслава Багданкевіча, трэба быць проста неадукаваным чалавекам, каб не разумець прычын крызісу і бачыць віноўніка ўсіх бед у асобе старшыні Нацыянальнага банка. Абясцэньванне „зайца" зразумелае: вытворчасць знізілася ў параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года ў два разы, у той жа час эмісія з паветра павялічыла грашовую масу ў тры разы. А адбылося гэта не па волі Багданкевіча, а наперакор яе, за рашэннем прэзідыумаў парламента і ўрада.

### Афіцэры за змену сімволікі

Рэспубліканская нарада кіраўнікоў арганізацый Беларускага саюза афіцэраў прыняла зварот да Вярхоўнага Савета, у якім настойвае на выкананні просьбы ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны аб адмене дзеючай цяпер дзяржаўнай сімволікі. На думку Саюза, святкаванне 50-годдзя вызвалення Беларусі з гэтай сімволікай будзе актам здрадніцтва памяці кожнага чацвёртага жыхара рэспублікі, які загінуў ад рук фашысцкіх захопнікаў і іх памагатых.

### Лукашэнка і аварыя

Другі этап перадвыбарчай кампаніі кандыдат у прэзідэнты Аляксандр Лукашэнка пачаў з аўтамабільнай аварыі. Аляксандр Рыгоравіч трапіў у яе 2 чэрвеня па дарозе да выбаршчыкаў у Гродне. На шчасце ўсё абышлося, аднак, мітынг пачаўся з паўтарагадзінным спазненнем. Прайшоў ён пад лозунгам: „Лёс Айчыны ў руках народа!"

### Злачынца пад вартай

Узяты пад варту падазроны ў забойствах дзяцей у Светлагорску Гомельскай вобласці. У апошніх гадах гэты горад час ад часу ўзрушвалі бясследныя знікненні дзяцей. З 1990 па 1993 год у вышуку лічылася шэсць хлопчыкаў. Для разгадкі гэтай жудаснай тайны былі прыцягнуты самыя кваліфікаваныя следчыя. Нямала прыйшлося таксама папрацаваць сышчыкам перш чым удалося выйсці на след светлагорскага „чэкацілы". Паводле папярэдніх даных, падазроны ў забойстве дзяцей — мясцовы даволі малады адзінокі жыхар.

❒

 

# ВЫБАРЧАЯ ПАНАРАМА

Працяг са стар. 1

адрадзіць тое пазней — не так ужо проста. У Шастакове, для прыкладу, будуем у гэты цяжкі час святліцу. Узялі мы аднаго майстру ды двух беспрацоўных і працуюць, па 10-12 гадзін. З гэтымі беспрацоўнымі гміна падпісала нармальную дамову на 6 месяцаў. Пазней яны змогуць атрымліваць засілак. Сем іншых беспрацоўных гміна, на такіх жа прынцыпах, узяла да абкошвання равоў. Беспрацоўныя ў гміне добра выкарыстоўваюцца. Самыя вялікія аднак сродкі ішлі ў гміне на будаўніцтва і рамонты дарог, затым на меліярацыю, пашырэнне тэлефоннай сеткі ды ўтрыманне службы аховы здароўя — дзякуючы намаганням гміны не быў ліквідаваны асяродак у Кленіках.

Паміж войтам і кіраўніком асяродка культуры Юрым Якімюком (кандыдат у Раду) завязалася размова пра беларускі фэст у гміне. Самы неадпаведны час, каб вырашаць гэтую справу — заўважае войт, — пералом улады ў гміне.

## Нарва — 11 кандыдатак

У нараўскай Гміннай радзе 18 месц. Гміна падзелена на столькі ж аднамандатных выбарчых акруг. У самой Нарве акруг гэтых пяць. Рэшта акруг арганізаваная такім чынам, што кожная з іх спалучае ад дзвюх да чатырох вёсак. Выключэннем тут Трасцянка. А гэта:

Трасцянка;
Даратынка — Янова — Градочна;
Гародчына — Ляхі — Козлікі;
Істок — Радзькі — Малыя Тыневічы;
Вялікія Тыневічы — Лапухоўка;
Кавела — Навіны — Катлоўка — Кутавая;
Ласінка — Гарадзіска;
Прыбудкі — Крывец;
Ваські — Рыбакі — Цімохі;
Храбустоўка — Макаўка;
Іванкі — Ванева — Гарэнды — Адрынкі;
Агароднікі — Цісы — Белкі — Анцуты;
Сацы — Пухлы.

Галасаванне будзе праходзіць агулам у пяці выбарчых участках.

Усіх кандыдатаў зарэгістравалася агулам 55. У кожнай выбарчай акрузе прынамсі два кандыдаты. Найбольшая іх колькасць на адно месца, бо па пяць чалавек — у акрузе н-р 2 у Нарве ды ў акрузе Крывец — Прыбудкі. Ніхто з кандыдатаў не падпіраецца шыльдай якойсьці партыі ці грамадскай арганізацыі. Усе яны, так сказаць, грамадзянская ініцыятыва.

У Гмінай радзе мінулай кадэнцыі, паведаміла сакратар выбарчай камісіі Марыя Авярчук, не было ніводнай жанчыны. Цяпер сярод кандыдатаў іх даволі шмат — адзінаццаць. Восем асоб у рубрыцы прафесія заявіла сябе настаўнікамі. Кандыдуе таксама адзін паліцыянт — удзельнік інцыдэнту, пра які мы пісалі ў 11 нумары нашага тыднёвіка. Дзевятнаццаць кандыдатаў — сяляне, у ліку якіх чатыры асобы з вышэйшай адукацыяй. Усіх кандыдатаў з вышэйшай адукацыяй у Нараўскай гміне — пятнаццаць. Паводле неафіцыйных перадвыбарчых меркаванняў, з ліку гэтых асоб рэальны шанц трапіць у Раду гміны мае да дзевяці чалавек. Гэта ўжо штосьці значыць, лічыць сакратар выбарчай камісіі ў Нарве, — хай іх апынецца ў Радзе і пяць чалавек, але тады ўжо яны могуць накінуць Радзе свой тон ды зрабіць яе сапраўды эфектыўнай, а напэўна ўжо ўзяць кіраўнічыя функцыі.

З ліку радных мінулай кадэнцыі ў выбары ідзе дзесяць чалавек.

Важнай часткай кампаніі кожнага кандыдата — кажа войт гміны Нарва Ян Тапалянскі (ён жа кандыдат у акрузе Сацы — Пухлы), — з'яўляецца тое, каго той жа кандыдат бачыць войтам у наступнай кадэнцыі. Кожны ж кандыдат разважае з людзьмі ды бачыць тое, што людзям менавіта праз прызму войта ўяўляецца выгляд наступнай кадэнцыі Рады. Я сам, — дадае Ян Тапалянскі, — сваёй асобы, хутчэй за ўсё, не бачу на пасадзе войта. Хіба, што маладога кандыдата не знойдзецца, а людзі выкажуцца за маёй асобай. Хто ведае...

У мінулай кадэнцыі Я. Тапалянскі радным не быў. Цяпер, — кажа, — хацелася б на ўсё гэта пагледзець з пункту радната. Тым больш, што калі выбяруць мяне, буду прадстаўляць частку таго грамадства, якое хацела адарвацца ад Нарвы пад Заблудаў. Гэта ладны кавалак зямлі, з прыгожым краявідам, лясамі, парэзаны рачулкамі. Ад дзесяцігоддзяў аднак жа Беласток вырашае адтуль людзкі патэнцыял. Патрэбнае тут нейкае ажыўленне, прыкметы якога ў маштабе ўсёй гміны можна было пагледзець і ў мінулай кадэнцыі. Сведчаць пра тое, хаця б, выкупы зямлі. З Трасцянкі, варта адзначыць, кандыдуе ў нараўскую Раду Міхал Астроўка — завадатар адлучэння гэтай вёскі ад Нараўскай гміны, пра што таксама пісалася ў нашай газеце. Між людзьмі, быццам бы гаворыцца, што М. Астроўка будзе арганізаваць у Трасцянцы філіял, з думкаю пра самастойную гміну там.

**А. МАКСІМЮК**

## Беларускі выбарчы камітэт СДРП

Камітэт з такой назвай быў створаны ў гміне Бельск-Падляшскі 17 мая. Расказвае пра яго адзін з заснавальнікаў, працаўнік пасольскага бюро сацыял-дэмакратаў у Бельску, **Ежы Шунэйка:**

*— Прыйшоў наш дзеяч з Райска (там маем двух сяброў СДРП) Аляксей Шыманскі і заявіў аб патрэбе стварэння ў гміне якраз такога камітэта. Ну то мы спісалі пратакол, адразу знайшліся тры кандыдаты — дзве асобы з таго ж Райска і адна з Пілік — прозвішчы кандыдатаў і адпаведныя паперы падалі мы ў тэрытарыяльную выбарчую камісію ў Бельску. З яе боку не было ніякіх засцярог. Але ўжо ў Ваяводскай выбарчай камісіі ў Беластоку сказалі, што камітэт з такой назвай зарэгістраваць не могуць, бо не дазваляе на гэта выбарчая ардынацыя. Паводле яе выбарчы камітэт не можа складацца з двух аўтаномных частак (гэта яшчэ адзін доказ на тое, што ардынацыю трэба змяніць). А мы ж толькі на практыцы ажыццявілі платформу нацыянальных меншасцяў у СДРП — ідэю, якая па розных прычынах застаецца ў сферы тэорыі. Пайшоў у гэтай справе пратэст з бюро пасольска-сенатарскага бюро СЛД у Беластоку. Але мы больш не хацелі валтузіцца з рэгістрацыяй і афіцыйна запісалі гэтых кандыдатаў такім чынам: двух з СДРП і аднаго з Беларускага выбарчага камітэта (Ірэна Цішук з Райска). Аднак гэта не азначае, што наш камітэт перастаў існаваць.*

**АК**

## Гарадок перад выбарамі

Беларускі выбарчы камітэт БДА ўжо другі раз прыступае да самаўрадавых выбараў. Як пераможца ў папярэдніх, БВК БДА ў сваёй праграме падкрэслівае творчае прадаўжанне ўжо праведзенай у гміне працы, гаспадарчае развіццё гміны, стварэнне новых месц працы, паправу стану дарог, пабудову вясковых водаправодаў, тэлефанізацыю.

Адным з пастулатаў беларускага камітэта ў папярэдніх выбарах было адкрыццё гранічнага прахода ў Баброўніках. Цяпер ён ужо дзейнічае, але каб жыхары нешта з таго мелі, трэба падтрымаць іхнюю ініцыятыву наконт пабудовы розных пунктаў абслугоўвання.

Сваю гміну гарадчане бачаць як экалагічную. Хочуць распаўсюджваць экалагічныя печкі для цэнтральнага ацяплення (адна такая ўжо працуе ў „рамізе" пажарнікаў). У будучыні мараць пабудаваць ачышчальню сцёкаў, але тут без дапамогі ваяводскіх улад ужо не абыдзецца.

Беларускі выбарчы камітэт БДА не абмінае культурных праблем. Важнай задачай лічыць захаванне традыцыі і развіццё беларускай культуры. Гарадок шырока вядомы „Басовішчам" — Фестывалем музыкі маладой Беларусі. Сорак гадоў спявае ўжо гарадоцкі беларускі хор і толькі што пачынае дзейнічаць Таварыства сяброў Гарадоцкай зямлі.

А вось кандыдаты Беларускага выбарчага камітэта БДА (паводле выбарчых акругаў):

1/ Кандрусік Юры, 44 гады, селянін,
2/ Кардаш Уладзімір, 36, тэхнік сельскай гаспадаркі,
3/ Адамік Мікалай, 51, механік,
4/ Дылько Раіса, 57, медсястра,
5/ Грыка Міраслаў, 36, тэхнік-механік,
6/ Карпюк Юры, 40, тэхнік-электронік,
7/ Лукошык Уладзімір, 46, мгр інж. сельскай гаспадаркі,
8/ Карпюк Рыгор, 36, тэхнік сельскай гаспадаркі,
9/ Хлябіч Фёдар, 49, селянін,
Тарасэвіч Ян, 66, селянін,
10/ Іванюк Рыгор, 30, механік будаўнічых машын,
11/ Карпюк Аляксандр, 31, настаўнік,
12/ Несцярук Ян, 32, селянін,
13/ Грушэўская Яўгенія, 37, настаўніца,
14/ Гжэсь Міраслаў, 30, селянін,
15/ Дзярманскі Аляксей, 50, механік,
16/ Грыка Ян, 52, селянін,
17/ Дуброўскі Анатоль, 60, селянін,
18/ Федзюкевіч Ян, 58, настаўнік.

На нашае пытанне, што хоча змяніць у сваёй роднай мясцовасці, адзін з маладых кандыдатаў, Аляксандр Карпюк з Валілаў, у студэнцкія часы дзеяч БАСу, адказвае коратка: „У Валілах трэба палажыць тратуары, падключыць больш тэлефонаў. Тут жыве тысяча людзей і пара ўжо, каб Валілы набылі адпаведны выгляд". Усё-такі сваю ролю ў будучай гміннай радзе Алесь бачыць не толькі ў вузкім вымярэнні. Хоча змагацца за павышэнне рангу навучання беларускай мовы і ўвядзенне ў школу элементаў рэгіянальнай гісторыі.

**АЛЕГ ЛАТЫШОНАК**




*ВІКТАР ШВЕД*

## ПАМІРАЮЦЬ НАШЫ ВЁСКІ

Палеткі са збожжам з валошкамі
Няспынна пусцеюць, пусцеюць...
Акенцы, забітыя дошкамі,
Хацінак нямеюць, нямеюць...

Гаспадары састарэлыя,
Што грэюць на сонейку косці,
Маўклівы, душой ачарсцвелыя,
Гатовы спачыць на пагосце.

А іх улюбёныя, кроўныя,
Здаўна гарадскія ўжо дзеткі,
І ўнукі, зусім польскамоўныя
Старэнькіх наведваюць зрэдку.

Ніхто тут наогул не селіцца,
Бо грэбаваць сталі ўсе вёскай.
Штодзень паміраюць аселіцы,
Травой зарастаюць палоскі.

## Лес — наш прыяцель

Польскія леснікі часта заклікаюць грамадзян захоўваць у лесе асаблівую асцярожнасць, паколькі тысяча нашых лясоў незадавальняючая. Прычыны гэтага стану розныя. У мінулым лясы, якія раслі на добрых землях, выкарчоўваліся. Ад некалькіх гадоў прыватныя лясы вынішчаюць самі ўласнікі. Некарысны таксама якасны стан нашых лясоў. Большасць з іх складаюць сасоннікі, якім часта пагражае пажар. Можна было ў гэтым пераканацца на працягу мінулых сухіх лет (найбольшы пажар здарыўся ў лясах Горнай Сілезіі, а на Беласточчыне — каля вёскі Елянка). Не найлепшая таксама узроставая структура дрэў; большасць — гэта маладыя лясы.

У параўнанні з нашымі заходнімі суседзямі, „лясныя" паказчыкі даволі мізэрныя. Лясы ў Польшчы займаюць 28% тэрыторыі, а ў Нямеччыне — 34%. У Беластоцкім ваяводстве тэрыторыя лясоў складае ўсяго 32% абшару. Каб паправіць гэтыя некарысныя ўмовы, праводзяцца лесанасаджэнні ў цэлай краіне.

Некалькі гадоў таму школьную моладзь ахвотна бралі ў лес памагаць садзіць лес. У сёняшнюю пару, калі многія людзі не знаходзяць працы, вучням не заўсёды ўдаецца ўладкавацца на лесапасадку. Але гэта не тычыцца Пачатковай школы ў Дубічах-Царкоўных. Вучні нашай школы кожны год вясной садзяць лес. У гэтым годзе вучні старэйшых класаў працавалі пры лесанасаджэнні аблогу і нізкаякаснай ворнай зямлі, якую пенсіянеры перадалі дзяржаве за пенсіі.

На працягу 5 дзён вучні засадзілі 5,2 гектара. Леснікі стараліся падабраць адпаведны гатунак дрэў да грунту. Вучні садзілі не толькі сасну, але і бярозу, дуб, елку, вольху, лістоўніцу. За працай вучняў наглядалі: з надлясніцтва Чэхі-Арлянскія спадар Малмышка і з лясніцтва Вітава спадар Васілюк. Вучнямі апекаваліся таксама і настаўнікі. Дзеці стараліся працаваць сумленна, хаця праца была нялёгкай. Некаторыя вучні хутка таміліся, але з дапамогай прыходзілі іх сябры і сяброўкі. Зароблены грошы будуць прызначаны на біваку і экскурсіі.

**СЛАВАМІР КУЛІК**

## Паветранае дзіва

Калісь, у 60-х гадах або і яшчэ раней, на лузе каля вёскі Рудуты, што ў Арлянскай гміне, прызямліўся не па сваёй волі планёр. Збегліся людзі з навакольных вёсак, каб пагладзець гэтае дзіва. Некаторыя прынеслі ў сумках нават гарэлку і піва. Жанчыны з далейшых вёсак нават начаваць асталіся, каб змагчы пабачыць, як гэтае дзіва будзе ўзнімацца ў паветра. Трэба было чакаць цэлую ноч; на шчасце была летняя кароткая ноч. Акружылі людзі планёр шчыльна, але ў адпаведнай адлегласці, некаторыя сілкаваліся, дастаючы ежу з сумак, быццам у партызанцкім атрадзе. Лётчык усміхаўся, але з кабіны не выходзіў. Раніцай прыляцеў „кукурузнік", прызямліўся, прычапіў планёр да самалёта вяроўкай і разбегся да ўзлёту. Вяроўка аднак парвалася і планёр зноў плаўна прызямліўся. Гледачы, а было іх каля паўтысячы, ахнулі ці то з задавальнення, ці ад страху. Лётчыкі на гэты раз прычапілі планёр канатам і цяпер усё пайшло гладка і самалёты скора зніклі за гарызонтам. Таксама і ў нас, каля Бахматаў, у 1914 годзе, калі ўспыхнула І сусветная вайна, прызямліўся пашкоджаны рускі самалёт „Лебедзь". Людзей была процьма. Лётчыкі адрамантавалі свой самалёт і калі мелі ўзнімацца ў паветра, для жартаў адзін з іх крыкнуў у натоўп „ложись на землю". Усе пападалі на мокры поплаў, як селядцы, а самалёт паляцеў на ўсход. Пра гэтае здарэнне расказаў мне мой бацька, якому тады было 6 гадоў.

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**

 

# „Шчэ нэ вмэрла Украіна”

*Фонд Сораса, які займаецца фінансавай падтрымкай дэмакратычных пераўтварэнняў у краінах усходняй Еўропы арганізаваў апошнім часам шмат канферэнцыяў і рознага характару сустрэч, прысвечаных праблемам нацыянальных меншасцей і аховы правоў чалавека. Варшаўскі філіял гэтага фонду — Фонд імя Стэфана Баторыя і Украінскі фонд падтрымкі дэмакратыі наладзілі ў канцы мая візіт прадстаўнікоў нацыянальных меншасцей з Польшчы ў Кіеў, каб змаглі яны пазнаёміцца з тым, як гэтыя праблемы вырашаюцца на Украіне. Быў я ўдзельнікам усіх сустрэч, падчас якіх гаспадары далі магчымасць пазнаёміцца не толькі з сітуацыяй нацыянальных меншасцей, пражываючых на тэрыторыі Украіны, але таксама і з іншымі праблемамі гэтай маладой дзяржавы.*

### Аэрапорт у Варшаве і Кіеве

Розніцу ў тэмпах эканамічнага развіцця Польшчы і Украіны відаць ужо ў аэрапортах Варшавы і Кіева. Галоўны будынак варшаўскага авіяцыйнага цэнтра — інфармацыйная сістэма, тэхнічнае абсталяванне, арганізацыя працы пашпартных, мытных і ўсялякіх іншых службаў нічым не адрозніваюцца ад заходнееўрапейскіх аэрапортаў. У Кіеве цэнтр пасажырскай авіяцыі больш напамінае вайсковую базу. У тым часе, што самалёт з Варшавы прызямліўся самалёт з нейкага сібірскага горада. Зрабілася цесна і голасна так, як на гродзенскай мытні два гады таму назад. Сярод крыклівых, разбеганых і абвешаных багажамі азіятаў трэба было выпісваць нейкія дэкларацыі і інфармаваць ці маеш з сабой наркотыкі, зброю, антыкварныя прадметы. Парадокс родам з савецкай дзяржаўнасці. Аднак мытна-пашпартныя службы перасталі ўжо знеахвочваць іншаземцаў да прыезду ў гэтую краіну. Залатазубыя дамы пыталіся толькі чужаземцаў, ці маюць яны свой багаж, ствараючы пры тым уражанне заклапочанасці пра нашыя інтарэсы. Першы крок да зменаў зроблены, другі таксама робіцца — вядзецца перабудова цэлага аэрапорта. Магчыма, што за год у Кіеве будзе так як у Гамбургу.

### Дэлегацыя нацыянальных меншасцей з Польшчы

прыехала ў наступным складзе: Антоні Вуйцік і Гэнрык Калодзей з Саюза украінцаў, Васіль Шлянта — старшыня Аб'яднання лэмкаў, Рудольф Гоцман з Нямецкага культурнага таварыства, Уладзімір Сусід — рэдактар „Яўрэйскага слова”, пані Галіна (прозвішча не запамяталася) старшыня Саюза ўкраінскіх жанчын, Пётр Байда — супрацоўнік Фонду імя Стэфана Баторыя і ніжэйпадпісаны. Зразумела, што мерытарычным зместам пабыўкі найбольш былі зацікаўленыя ўкраінцы з Польшчы. Немец, здаецца, толькі на другі дзень зарыентаваўся, што знаходзіцца ў дзяржаве, якая называецца Украіна, а не Савецкі Саюз, а пад канец нашай пабыўкі сказаў мне, што я вельмі добра гавару на ўкраінскай мове, хаця я гаварыў выключна на беларускай. Украінскае ці беларускае для пана Рудольфа гучала аднолькава — проста нейкая „руская”. Уладзімір Сусід з яўрэйскага двухтыднёвіка, які ведаў расейскую мову не патрабаваў перакладчыка, калі гутарка вялася на ўкраінскай мове. Дарэчы, я таксама быў у камфортнай сітуацыі. Карыстаючыся беларускай мовай у афіцыйных выступленнях і прыватных размовах адчуваў, што мяне ў Кіеве разумеюць таксама добра, як калегі ў рэдакцыі „Нівы”.

### Рыначная эканомія ўварвалася ў горад Уладзіміра Вялікага.

Едучы аўтобусам з аэрапорта ў Кіеў (30 кіламетраў) за акном відаць краявіды, якія сустракаюцца вакол большасці гарадоў былога СССР. Аграмадныя прамысловыя камбінаты, кашмарныя грузавікі, няроўныя дарогі, неапісаная цесната ў аўтобусах, тралейбусах і трамваях.

Кіеў звонку становіцца ўжо ўкраінскім горадам. Амаль усе надпісы на ўкраінскай мове. На дзяржаўных установах герб „трызуба”, хаця серп і молат доўга яшчэ будзе дамінаваць на манументальных будынках горада. Сімвалы савецкай дзяржаўнасці з'яўляюцца трывалым элементам архітэктурных канструкцый урадавых будынкаў. На вуліцы часта гучыць украінская мова, хаця большасць жыхароў сталіцы Украіны карыстаецца яшчэ расейскай. Афіцыйны Кіеў ёсць, аднак, украінамоўным, асабліва ў кантактах з іншаземцамі, але паміж сабою нават тыя, хто добра ведаюць украінскую мову, гавораць на расейскай. Шматгадовая дамінацыя расейскай культуры зрабіла сваё ў псіхіцы ўкраінскага народа. У рэстаране гасцініцы „Украіна” афіцыянткі рашуча трымаліся „общепонятного языка”, а аркестр іграў наперамен расейскія, ангельскія і яўрэйскія „душещипательные” рытмы.

Хапае выйсці вечарам з гасцініцы, і зараз у дзвярах сустракае цябе жабрак і нейкая „бурдэльмама”. Тая другая прапануе масажы ў зацішных кабінетах у выкананні маладых дзяўчат. Пра цану я не асмеліўся спытаць. Хаця набліжалася поўнач, былі адкрытыя амаль усе камерцыйныя крамы. Замежны алкаголь, сігарэты, чыпсы, кока-кола і ўся іншая імпартная „херня” па цане вышэйшай, чым у Варшаве, запоўніла тысячы маленькіх крамаў ў цэнтры горада. Большасць гэтых тавараў украінцы могуць толькі пабачыць за шкляной шыбай крамы. Каньяк па 400—800 тысяч карбаванцаў мае вартасць месячнай зарплаты. Дарэчы, украінская гарэлка (25 тысяч) таннейшая за імпартную замежную ваду (60 тысяч).

У дзяржаўных крамах таксама шмат рознага тавару, але таксама і натоўпы пакупнікоў. Уся гэтая эканоміка становіцца тут незразумелай. Афіцыйна людзі зарабляюць 10—15 долараў, але ў мяне склалася ўражанне, што выдаюць яны ў 10 разоў больш.

Капіталізм і сацыялізм існуюць побач сябе ў вельмі шырокім дыяпазоне штодзённага жыцця жыхароў горада. З увагі на высокі кошт прадукцыі тэлефонных жэтонаў усе гарадскія размовы ёсць дармовыя. Таксама гарадскі транспарт возіць людзей за сімвалічную плату. Зрэшты, усе білеты, талоны, бланкі (а нават грошы) можна было б масава прадукаваць ксераксной тэхнікай, таму на сённяшні момант і няма сэнсу павышаць, напрыклад, цэны білетаў на тралейбус.

Афіцыйны лік беспрацоўных на Украіне даходзіць да 100 тысяч, але я спаткаў людзей, якія ўжо трэці месяц не ходзяць на працу, але атрымоўваюць з фабрычнай касы 100 тысяч карбаванцаў (2 долары) у месяц. Яны яшчэ лічацца працаўнікамі. У рэстаране стаіць пры ўваходзе малады прыгожа апрануты чалавек, які толькі адкрывае і закрывае дзверы, у гасцініцы на калідоры ў падобных на паліцыйныя уніформах сноўдаюцца 3—4 працаўнікі, аб характары працы якіх немагчыма здагадацца. Хапіла б прыватызаваць той жа рэстаран ці гатэль, а 80% працуючых там людзей апынуцца сярод беспрацоўных.

У сродках масавай інфармацыі шмат гаворыцца пра недахоп бензіну, але рух у цэнтры горада такі вялікі, што лепш ісці пяшком, калі хтосьці недзе спяшаецца.

Тое, што кідаецца ў вочы на вуліцах Кіева — гэта натуральная прыгажосць тамашніх жанчын і пачуццё бяспечнасці. Пакуль што сталіцу Украіны абмінула хваля бандытызму, наркаманіі і ўсялякіх іншых праяваў амерыканізацыі, якія ў апошнія гады залілі вуліцы Варшавы, Менска, Масквы. Нават ноччу шмат людзей шпацыруюць цемнаватымі вулічкамі і нідзе не відаць распушчаных жулікаў. Магчыма, што бяспечная вуліца Кіева таму, што паліцыянтаў і ўсялякіх мілітарызаваных службоўцаў ёсць столькі ж, а можа яшчэ больш, чым у савецкі час.

*(працяг будзе*

**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ**

# ПРЫВАТЫЗАЦЫЯ Ў КАРЫЦІСКАХ

— У нас пшаніца расці павінна, — уздыхае **Ян Міхалюк**, — але што зробіш, калі ў поле на час не ўедзеш. Часам аж плакаць хочацца. Замест як след зараць, пакалупаешся толькі ў зямлі, пасееш штосьці не ў пару, то такі і плён. Марнуецца толькі добрая зямля, запускаецца. О, каб яе змеліяраваць, то што другое.

* * *

У Карыцісках меліярацыю правесці намагаліся, намагаліся ды так і нічога не дабіліся. Наканец падумалі, што можа гэта ўдасца калгасу. Залажылі яго ў... 1986 годзе.

— А што, і так на зямлі ніхто не хацеў заставацца, — расказвае **старшыня Ян Міхалюк**, — хоць бы ў мяне самога, дзве дачкі тады ўжо былі ў горадзе, сыну таксама было не да гаспадаркі, то нам здалося, што гуртам у „спулдзельні” яксьці лягчэй будзе. Ну і ўрэшце гэтыя дрэны можа нам паложаць.

У той час яшчэ калгасам хутчэй можна было чаго дабіцца ад уладаў. Але ўжо дафінансавання ніякага не было. На машыны ўзялі мы крэдыт, то потым працадзён сабе не налічвалі, каб яго сплаціць. Ну, выплаціцца то мы выплаціліся, але пабудавацца ўжо не паспелі. Там, дзе калгас завязалі раней, там яшчэ пабудаваліся, а нам усё перапыніў 1989 год. Дрэнаванне былі б правялі, бо ўжо нават планы зрабілі, але ўсе інвестыцыі спыніліся і мы засталіся з тым самым падмоклым полем.

А калгаснікі памалу пераходзілі на пенсіі. Зноў цяжка стала людзей да работы знайсці. Здавалася, адзінае выйсце — развязаць калгас.

Засталося нас яшчэ 6 членаў з удзелам (напачатку было 14, але як пачалі рабіць камасацыю, чатырох выступілі), то думаем, падзелімся машынамі, возьмем назад зямлю і як-небудзь будзем з ёю змагацца. Справа выдавалася тым больш простай, што нікому нічога не былі мы вінаваты.

Аж тут выявілася, што паводле закону аб кааператывах мы самі нічога не можам. Трэба нам наняць ліквідатара і солана яму заплаціць за тое, што ён прадасць нашу маёмасць. Але нават тое, што застанецца, не будзе нашае, а пойдзе на нейкія грамадскія справы. Якія? З якое рацыі, ці нам хто тыя грошы даў?

* * *

Суботняя раніца ў канцы мая. Людзі абсправіліся ў гаспадарках, свінні накормлены, падоеныя каровы на пашы. У полі — нават цяжкім, падмоклым — таксама ўжо ўсё пасеена і пасаджана. Можна хвіліну пастаяць з суседам на вуліцы.

Спыняемся з сябрам каля двух мужчын. Слова за слова завязваецца гутарка. Пра жыццё, палітыку, Валэнсу, разумных вучоных, якія на свой спосаб таксама дурні. Як жывецца? А так, нічога, дзякуй Богу не горш як і ў іншых. Надыходзячыя самаўрадавыя выбары энтузіязму не выклікаюць, не распальваюць страсцей, хаця ў Карыцісках аж чатырох кандыдатаў. Куды цікавей паразважаць пра пчолы, якія былі ўцяклі ў сябра тыдзень раней.

— Падаліся ў ваш бок, ганіў я, ганіў але і так і ўпусціў. Не чулі, мо да каго прыляцелі?

— Не, не чулі.

— А вы не чулі? — пытаецца Лявон Лаўрыновіч. — Ці не можна калгаса развязаць без ліквідатара? Ты ў газеце працуеш, то можа ведаеш, — звяртаецца да мяне.

Людзі здзіўляюцца і абураюцца — 40 мільёнаў камусьці чужому! За ліквідацыю калгаса без даўгоў!

* * *

Солтыс Віктар Тамчук таксама мае да нас пытанне:

— Можа ведаеце, дзе збожжа прадаць, а то ў людзей яшчэ ёсць і ніхто не бярэ. На рынку самаход жыта браў па 135 тысяч за мэтар, то *дай спокуй!*

Солтыс якраз снедаў. Даведваемся ад яго, што ў Карыцісках каля 50 дамоў, а гаспадароў больш-менш палова. Трымаюць кароў, сеюць збожжа, ворнае поле і лугі так больш-менш напалавіну. У вёсцы скупка малака, вада з водаправода, ёсць клуб, ано пусты — тэлевізар і пару столікаў — зімою там сёй-той збярэцца, цяпер то не, бо праца.

— Па калгасе засталася памятка — жвіраваныя дарогі. Але найлепш вам пра яго раскажа Ян Міхалюк.

* * *

— На 16 чэрвеня назначаны другі тэрмін продажу машын, — кажа Ян Міхалюк, — то ўжо хіба запозна, каб што-небудзь змяніць. Не было каму своечасова разглянуць існуючыя законы, падумаць аб іншых выхадах з цяжкай сітуацыі. Не было каму нам параіць.

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**

## Новая бібліяграфія айца Рыгора Сасны

„Wstepna bibliografia chrześcijaństwa wschodniego. Druki polskojezyczne okresu współczesnego (1944-1993)” — так будзе звацца новая кніга айца Рыгора Сасны з Рыбалаў, якую намерваецца ён выдаць друкам у палове лета гэтага года. У кнізе знойдзецца каля шасці тысяч зносак.

— На чымсьці трэба спыніцца — заўважае а. Р. Сасна, — на працягу дзесяці гадоў удалося мне стварыць у меру поўную бібліяграфію Беласточчыны (8 кніг). Матэрыял, які я сабраў у час гэтай працы далёка выходзіў па-за межы Беласточчыны, закранаў тэму праваслаўя ў свеце. Выкінуць гэтыя ўсе рэшткі ў смецце шкада было. Пачаў я корпацца далей. Адбор свой абмяжоўваю толькі да таго, што падбіраю ўсяго польскамоўныя публікацыі — будучыя даследчыкі тэмы хай ужо вызначаюць найбольш вартасныя пазіцыі. Далей пайсці ў адборы матэрыялу не на руку, а нават і тэндэнцыйна. У кнізе знойдуцца таксама зноскі на публікацыі аўтараў ультра празаходніцкага ўхілу, якія, само разумеецца, не маглі быць прыхільнымі праваслаўю. Сваім абавязкам палічыў я змясціць у бібліяграфіі нават правакацыйныя публікацыі, якія дачакаліся рэплікі ў праваслаўнай прэсе. Падаецца ў такім выпадку ўся „сцяжына” палемікі.

Айцец Рыгор Сасна пачаў сваю працу над бібліяграфіямі ў другой палове 60-тых гадоў. Працаваў ён у той час душпастырам у Сямяцічах.

— Быў гэта той добры час, — успамінае ён цяпер, — калі ў павятовай бібліятэцы можна было дастаць любую кнігу. Хапіла даць заказ і пару дзён пачакаць. У Сямяцічах быў добры грунт і зразуменне для маёй працы. Замест гарбець над кнігамі ў чытальні, мне давалі іх дахаты, дзе каля цёплай печкі можна было рабіць дакладна тое ж. З падобным зразуменнем для сваёй дзейнасці я сустрэўся і ў Рыбалах.

**(ам)**



 

# ЧЫКВІН У БЕЛЬСКУ

Бывае, што калі не нейкім мерапрыемстве зыдзецца зашмат пісьменных людзей, няма каму пра гэта напісаць. Проста, кожны думае, што іншы зробіць гэта лепей.

Так здарылася і з вечарынай, наладжанай у гонар Яна Чыквіна кіраўніцтвам прадпрыемства „Амега". Была гэта ўжо другая падобная імпрэза ў памяшканні фірмы на вуліцы Відоўскай у Бельску, пасля сустрэчы з Сакратам Яновічам.

Ян Чыквін, заняўшы ганаровае крэсла, не ўступіў у спаборніцтва ў „зачароўванні" кампаніі са сваім папярэднікам, дарэчы, прысутным.

Як то прафесар, перадаў свае роздумы пра паэзію ў спакойным тоне. Адчувалася, што тэма аўтарам перадуманая, ды не толькі з нагоды выступлення. Наогул, ён за чыстую паэзію.

Сабраўшаяся адборная кампанія прыхільнікаў творчасці паэта аказалася на здзіў кідкая на дыскусію пра паэзію і жвава дыскутавала ажно да адзінаццатай гадзіны ночы. Абагульняць вынікі дыскусіі я не бяруся, паколькі закранаўся самы шырокі дыяпазон праблем, а ў кожнага прысутнага быў свой погляд. У гамане знікаў часам голас героя вечара, а шкада, бо чытае ён свае вершы надзвычайна.

Бадзёрасць дыскусіі мацавалася і тым, што яе другая частка праходзіла за багатым сталом, якім прымала гасцей кіраўніцтва „Амегі", у асобах Барбары Бабулевіч і Валянціна Сельвесюка. Гэты апошні, спрактыкаваны ў беларускім пісьменстве, актыўна ўключыўся ў дыскусію над сэнсам паэзіі. Стваральнікі і прыхільнікі беларускай паэзіі накіроўвалі пры нагодзе ў адрас шчодрай фірмы далікатныя намёкі, каб прадаўжаць рэдкія, але змястоўныя сустрэчы ў яе памяшканні. Спадар Сельвясюк быццам бы і не адмаўляўся...

**АЛЕГ ЛАТЫШОНАК**

# ХТО НАВУЧЫЦЬ ПОЛЬСКАЙ І РУСКАЙ?

☛ *Працяг са стар. 1*

— Nie po to pan kończył studia podyplomowe z języka polskiego, by teraz uczyć białoruskiego, — кажа дырэктар школы.

У Саках няма ніякіх беларускіх конкурсаў. Праца настаўнікаў абмяжоўваецца да прадметных, штатных гадзін.

— Разбіцце ўсяму вінаватае, — кажуць настаўнікі.

Вырашыць гэтую справу, паводле настаўнікаў, не лёгкая справа.

— Chyba że zatrudnić jeszcze białorutenistę, — гаворыць дырэктар, але адразу зазначае, што аб многім вырашае сама Педагагічная рада, якая не хацела б такога вырашэння праблемы.

У Саках быў час, што

**ўжо не было беларускай мовы.**

— Калі людзі даведаліся, што гэты прадмет неабавязковы, то пачалі ўсе прыходзіць з „карткамі" і вызваляць сваіх дзяцей. Усё паўтаралі, што іх дзецям замнога вучобы. Такім чынам беларускую мову перасталі зусім выкладаць. Зараз таксама ў VIII класе няма навучання, — кажа дырэктар школы.

Справай аднаўлення навучання роднай мовы занялася Тамара Русачык. Разам з дырэктар Алінай Вежбай заахвоцілі дзетак з II класа, пагаварылі з бацькамі і мову пачалі зноў вывучаць у Саках.

— Ёсць праблемы, бо ў старэйшых класах дзеці часта ўжо хочуць „зволньіцца". Каб у школе ўтрымаць навучанне ўведзены

**такі вось прынцып:**

калі ўжо нехта паабяцаў вучыцца гэтага прадмета ў II класе, то ён такім чынам дэклараваў (вусна), што будзе працягваць навуку сем гадоў. І цяпер, калі прыходзяць з „картачкамі", то я ім напамінаю пра дэкларацыю, і вучні далей вучацца, — кажа дырэктар школы.

Дзеці не надта ахвотна адносяцца да гэтага прадмета.

— Трэба ўпершыню ўсвядоміць бацькоў, тады яны самі тлумачылі б дзеткам патрэбу вывучэння сваёй роднай мовы, — кажа спадарыня Вежба.

Дзеці ў школе ўжо гавораць папольску (Сакі гэта беларуска-польская вёска).

— Як гуляюць у мяч, дык крычаць па-свойму, — кажа адзін настаўнік.

Мне таксама не давялося пачуць, каб дзеткі між сабой размаўлялі па-беларуску. Карысталіся яны дыялектам польскай мовы. На сустрэчы з шасцігодкамі я даведалася ад настаўніцы „że dwoje dzieci umie mówić tak jak pani", але гэтыя дзеткі ні за што не хацелі адазвацца. На дадатак настаўніца не ўмела адрозніць нацыянальнасць ад грамадзянства. „Jesteśmy Polakami, bo w Polsce mieszkamy", — паясніла яна дзеткам. Напэўна яна, настаўніца ў т.зв. беларускай школе, і не чула пра беларусаў. Дзіўна, аднак. Усе настаўнікі размаўлялі са мной пераважна па-падляшску.

**ГАННА КАНДРАЦЮК**
**фота аўтара**




*БАРЫС РУСКО*

**СОН**

Лясны сон адчыняе вароты ў зялёны
простор.
Дых чарадзея абмотвае скронь казкай.
Гарацъ уздоўж алеі кастры кветак.
Алеяй бягуць і бягуць словы верша.
У грывах дрэў харал лістоты,
маэстра Бах за пультам вятроў.
Згортвае лебедзь крыламі возера,
каб плыло воблакам па небе.
Якая прыгожая зелень ува сне —
да грудзей прытуляю касу залёнага часу.

**БУТОН ВЯСНЫ**

Завея ў задышцы блытае крокі,
згубіла партнёра ў танцы.
Сум ейны ем па кавалку,
як торт вясельны.
Ужо неба пашыла сукенку блакітную
з зялёным узорам.
І сенажаць уся ў чаканні,
сырадоем набракла.
Гэта ёй строчыць ямбы
жаўрук-вершаплётчык.
А я, бы бусел, дыбаю ў пойме
і жоўты бутон вясны буджу.

**ПАШТОЎКА З УСПАМІНАЎ**

Усе дарогі вядуць на акружнасць круга.
Помню нязменную татуіроўку мурашак.
І такую ж краплістую расу
перманентных ранкаў.
І трывогу тых, што стаялі ля маёй
калыскі,
і той, чый стук сэрца ўвесь час са мною.

# 75-ТАЯ ГАДАВІНА БЕЛАРУСКАЙ ВІЛЕНСКАЙ ГІМНАЗІІ

якая адзначалася ў Вільні 21 і 22 мая г.г. — гэта гістарычны юбілей, тым больш, што супадае з адраджэннем там беларускага школьнітва пасля паўвяковага перапынку, прычыненага савецкім рэжымам у 1944 г.

Арганізатары задбалі, каб размах юбілейнай урачыстасці адпавядаў яго значэнню для беларускай культуры. Цэласць мерапрыемства ладзіла Таварыства беларускай школы (ТБШ), пад кіраўніцтвам Лілеі Плыгаўкі — загадчыцы кафедры беларусістыкі ў Віленскім педагагічным універсітэце і адначасна завуча беларускіх класаў сярэдняй школы. Супольна з ТБШ удзельнічалі ў падрыхтоўцы і правядзенні мерапрыемства Таварыства беларускай культуры (ТБК) з яго старшынёю Хведарам Нюнькам, Беларускі клуб „Сябрына" пад кіраўніцтвам Валянціна Стэха, калектыў настаўнікаў і вучняў беларускіх пачатковых класаў пры рускай школе н-р 13 і сярэдніх — пры школе н-р 17. Душою цэлага беларускага асяроддзя і яго пачынальнікаў быў вядомы Лявон Луцкевіч. Лілея Плыгаўка прывітала запрошаных гасцей (якія, абдараваныя кветкамі, былі ўжо памешчаныя вучнёўскай руплівай абслугай у першых радах крэслаў) і ўсіх іншых прысутных. Першая ўзяла слова Зоя Коўш — найстарэйшая выпускніца гімназіі. Прыгадала яна варункі тадышняй школы, навукі і веру ў ідэалы, якія яднялі беларускую моладзь яе пакалення.

Асноўны рэферат прыпаў на долю Лявона Луцкевіча, якога дзядзька Іван Луцкевіч быў галоўным ініцыятарам стварэння гімназіі (а Лявон яе выпускнік). Характарызуючы ўмовы, у якіх стваралася гімназія, падкрэсліў пошукі формаў асветніцкай дзейнасці сярод беларускага насельніцтва, як правамернасць у рэчышчы нацыянальнага вызваленчага руху пачатку XX стагоддзя. Пачатковым увенчаннем тых пошукаў было стварэнне 5 пачатковых школ у Вільні і настаўніцкіх курсаў у 1915 г. У лютым 1919 года пачаліся заняткі ў Беларускай гімназіі, якая з дазволу літоўскай Тарыбы памясцілася ў Базыльянскіх мурах і ператрывала там да прыходу „вызваліцеляў", якія бязлітасна яе зліквідавалі пасля адсвяткавання 25-годдзя існавання, у 1944 годзе. Назваўшы прозвішчы ініцыятарай групы заснавальнікаў гімназіі: кс. Адама Станкевіча, Леаніда Чарняўскага, Юліі Менке, Міколы Кахановіча (першага дырэктара) і Алёны Сакаловай — каханай вучнямі „Цёткі Алёны" — выкладчыцы беларускай мовы на працягу існавання школы, паясніў працэс развіцця гімназіі. Пачаткова была яна прыватнай установаю без права экзаменаў на атэстат сталасці, якога дапрацавалася толькі ў 1928 г., а ў 1932 г. стала дзяржаўнай. Нягледзячы на асіміляцыйную палітыку польскай дзяржавы, гімназія была асноўным тагачасным палітычным і культурным цэнтрам Заходняй Беларусі. Паспяхова дзейнічалі ў ёй вучнёўскія гурткі: літаратурны, драматычны, музычны, мастацкі, духавы аркестр, хор пад кіраўніцтвам Рыгора Шырмы, выкладалася эсперанта. Гімназія выдавала свой часопіс „Вучнёўскі звон", мела сваю бібліятэку і кааператыў.

Апрача названага раней Міколы Кахановіча, Лявон Луцкевіч прыклікаў памяць усіх чарговых дырэктараў гімназіі: Браніслава Тарашкевіча, Антона Нэканда-Трэпкі, Радаслава Астроўскага, Сяргея Паўловіча, Аляксандра Міхалевіча, Міколы Анцукевіча, Васіля Кавалевіча, кс. Адама Станкевіча і апошняга — Франука Грышкевіча. Належную ўвагу ў сваім выступленні прысвяціў выкладчыкам літаратуры: Максіму Гарэцкаму, Антону Луцкевічу (свайму бацьку), Ігнату Дварчаніну, паэту Хведару Ільяшэвічу і іншым настаўнікам з даўжэйшым стажам як: Язэп Шнаркевіч, Наталля Банцлебен, Сымон Кароль, мастак Язэп Драздовіч, Уладзіслаў Пухоўскі, вядомы сёння ў свеце тэрмаядзерны даследчык Барыс Кіт, Вінцук Грышкевіч, Пётра Шчасны і згаданая Алёна Сакалова-Лекант. Выступленне Лявона Луцкевіча выклікала зразумелае зацікаўленне моладзі і ўзрушэнне прысутных былых выхаванцаў школы. Імпрэзу ўдастоілі сваёй прысутнасцю міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь Пётр Краўчанка і прадстаўнік Міністэрства адукацыі РБ, якія перадалі ТБШ каштоўныя падарункі. У цікавых змястоўных выступленнях беларускіх палітыкаў неабходна звярнуць увагу на дэкларацыю супрацоўніцтва ўрада Беларусі ў галіне беларускай асветы і культуры з беларускімі замежнымі асяроддзямі, аб стараннях адкрыць музей Івана Луцкевіча і аб габелене з гістарычнымі постацямі, між якімі апынуліся Іван і Антон Луцкевічы. Прыхільнасць справам беларускай меншасці і яе культуры ў Літве падкрэслілі і прадстаўнікі літоўскага ўрада — дырэктар Дэпартамента нацыянальных меншасцяў сп. Вайткус і часовы паверанны Літоўскай Рэспублікі ў РБ сп. Аўгуліс, які выступіў на чыстай літаратурнай беларускай мове.

Настальгічная па характару выступленні гасцей-выхаванцаў гімназіі высветлілі нямала фактаў гістарычнага значэння, а Алег Анцукевіч перадаў арганізатарам каштоўныя дакументы з архіва свайго бацькі — былога дырэктара — Міколы Анцукевіча.

Не без значэння для беларусаў Польшчы было выступленне Тамары Русачык, якая ўзначальвала дэлегацыю Беласточчыны. У сваім сэнсоўным цёплым выступленні Тамара Русачык звярнула ўвагу на падобныя варункі і цяжкасці, у якіх знаходзіцца беларуская асвета ў Літве і ў Польшчы. Хочацца верыць, што гэтая сустрэча паслужыць паглыбленню кантактаў між беларусамі Літвы і Польшчы не толькі ў галіне школьніцтва. Прадаўжэннем гэтай асноўнай часткі праграмы ўрачыстасці былі выступленні прафесіяналаў эстрады з удзелам і пад кіраўніцтвам Лявона Мурашкі, а пасля — хору „Сябрыны" з яго мастацкім кіраўнікам Юрым Зімніцкім і канцэртмайстрам Таццянай Скораю.

На змену хору пажылых людзей, якія на заканчэнне сваёй праграмы падняліі на ногі прысутных, сяпяваючы „Мы выйдзем шчыльнымі радамі...", голас забралі школьнікі — дзеці і моладзь — віленская і запрошаная з Ашмяны і Міхалішак. Змест выступленняў патрыятычнага і літаратурнага характару пераплятаўся з сучаснай маладою эстрадаю. Слушна, у маім перакананні, дзеячы ТБШ у асобах Марыі Русак (дзявочае прозвішча Станкевіч) і Галіны Луцкевіч (дачка Зоські Верас) не пашкадавалі часу на афіцыйнае ўручэнне ганаровых граматаў і кніжак школьнікам — кожнаму асабіста (хоць іх было нямала). Факт гэты астанецца ў памяці не аднаго дзіцяці і можа спадарожнічаць яго свядомасці ўсё жыццё. Замена пажылых людзей у мастацкай частцы праграмы школьнікамі — дзецьмі і падлеткамі прывяло мімаволі на думку сімвалічную адэкватнасць да лёсу гімназіі, якая перапыніла сваю дзейнасць на паўвеку і вось толькі што адрадзілася, згубіўшы недзе сярэдняе пакаленне нашага часу, на шчасце не цалкам, як доказаў удзел дзеячоў сярэдняга ўзросту ў падрыхтоўцы ўрачыстасці.

Імпрэзу абслугоўвала беларускае тэлебачанне і беларуская секцыя літоўскага радыё. З не меншым арганізацыйным поспехам адбылася сяброўская вечарына 21 мая, а 22 — наведванне магіл дзеячаў беларускай культуры, палітыкі і ўскладанне кветак на іх магілах ці пры помніках, пасля выступлення эстраднага калектыву „Бліскавіца" з Менска. Развітальны вечар прайшоў у атмасферы сяброўства ў Таварыстве беларускай культуры.

Салідарнае і талковае супрацоўніцтва ўсіх грамадскіх арганізацый віленскіх беларусаў дае неблагія вынікі. ТБК паспяхова вядзе перагаворы з уладамі горада ў справе будынка і самастойнасці для беларускай сярэдняй школы, арганізуе ў собскім памяшканні пры вул. Жыгіманту 12 сустрэчы, розныя імпрэзы, дабілася згоды на атрыманне пляца пад будову Музея Якуба Коласа ў прыгарадзе Павільніс. „Сябрына" ладзіць вечарыны, напрыклад велікодныя і іншыя. Арганізуюцца раённыя суполкі ТБК, напрыклад у Сьвянцянах. Шматгадовы грамадскі дзеяч беларускага асяроддзя Мікола Рулінскі пазнаёміў мяне з праектам статута ТБК арганізаванага ім у Тракійскім раёне. Практычная дзейнасць беларускага актыву, пра якую расказаў М. Рулінскі, прыцягвае да беларускіх суполак людзей, а тым самым і цэментуе беларускае асяроддзе.

**ЯНКА ЖАМОЙЦІН**

ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

*АЛЕГ МІНКІН*

## ЧЭРВЕНЬ

Загарэлы, дужы, босы,
Коціць Чэрвень да дзятвы
Пахі кветак, ззянне росаў,
Шолах лісця і травы.

Вось уз'ехаў воз бухматы
На падворак светлы наш,
Лету, сонцу, вішням, хатам
Старахцеў прыветны марш.

Падыходзь жа, калі ласка,
Да цудоўнага вазка,
Выбірай любыя краскі
Для духмянага вянка!

*Спявачкі з Нарвы.* **Фота С. Грынявіцкага**

# ДОБРЫ ХЛОПЕЦ ДЗІК

**2**

**ЛЕГЕНДА ПРА ПАХОДЖАННЕ**

На хмурным і золкім лютаўскім досвітку нам у дзверы пастукаў Марат, сын шаўца Міколы, прагавіты да чытання падлетак.

Пераступіў парог і падціснуў напражку на мультановым бушлаціку: пазуха ў яго падазрона адтапырвалася.

— Прынёс, — коратка паведаміў Марат.

— Што ж ты прынёс, хлопча? — я пытаў здзіўлена, няўжо ён праглынуў узятую напярэдадні кніжку і з'явіўся па новую.

— Тое, што тады казалі... — І вылузаў з свае апранашкі шчанюка.

Шэры пушысты камячок скаціўся з хлопцавых рук на падлогу, падціснуў хвосцік, быў памкнуўся падбегчы і не змог — таўсматыя лапы кепска трымалі сытае цельца і раз'ехаліся ў бакі.

Сапраўды, напярэдадні Марат прыходзіў сюды са сваёю мамаю. Спраміж іншага гаварылі, як нядрэнна было б, жывучы тут, на ўскраіннай адзіноце, мець у хаце сабачае вока і вуха. Хлопец запомніў і, не марудзячы, выстараўся жаданага.

— Вялікі сабака вырасце... — працягваў Марат з выглядам сур'ёзнага знаўцы, сам, відавочна, цешачыся з свайго ўдалага падарунка.

— Лапішчы якія тоўстыя, глянь-це. Шырокі ў косці — шпаркі ў росце, — хлопец паўтарыў улюбёную бацькаву прымаўку.

— А з якіх ён сабак?

— Сын англійскага дога і нямецкай аўчаркі.

Гэта прагучала так гучна, нібыта гаворка ішла не менш чым пра шлюб уэлскага лорда з баварскаю графіняю.

Спакушаныя такою бліскучаю і бездакорна дакладнаю біяграфіяй, мы вырашылі павялічыць насельніцтва кватэры на адну сабачую душу, балазе дадатковай плошчы для прапіскі не патрабавалася.

У нагрэтую шчанюком Маратаву запазуху перайшла кніжка пра Шэрлака Холмса, яна даўно пасміхалася хлопцу з мае паліцы.

Прызнацца, на нейкі момант у мяне варухнулася сумняванне: адкуль было Марату ў ягоныя адзінаццаць гадоў здабыць такія пэўныя весткі датычна сваяцтва дога і аўчаркі? Немалая частка хлопцавага маленства змарнела ў цёмным, згалелым за фашысцкую акупацыю горадзе. Ні людскай школы, ні бібліятэкі, ні зычлівага слова.

Само сабою выходзіла, што ён зараз, несучы нам сабачку, прыдумаў нешта кшталтам легенды, даўшы волю фантазіі, а на недахоп яе хлопцу скардзіцца не даводзілася. Пабыў нейкія паўгода з бацькамі ў партызанах і цяпер зачароўваў аднакласнікаў бляскам сваіх малаверагодных подзвігаў і колькасцю, зусім неверагоднай, знішчаных ім асабіста ворагаў.

Аднак, якім бы цемнаватым не здавалася паходжанне шчанюка, зерне праўды ў прапанаванай нам біяграфіі было. Цераз год з шаравата-рудога камячка поўсці на таўсматых лапах вылюдзеў дужы, ростам з дога, пёс са звычайнай для гэтай пароды моцнай і шырокай грудзінай. А вушы ў яго — стаялі! І даволі пругка, як у аўчарак, праўда, адно крыху завальвалася набок, асабліва калі падыходзіў палашчыцца.

Такім чынам, былі ўсе падставы, не саромеючыся, пераказваць Маратаву легенду нават перад заўзятымі паляўнічымі, уласнікамі бясспрэчна чыстакроўных легашоў, пойнтэраў, сетэраў і ганчакоў.

*(працяг у наступным нумары)*
**МАКСІМ ЛУЖАНІН**

*НІНА ГАЛІНОЎСКАЯ*

## СКОРАГАВОРКІ

Чайка човен пачыняла
І на ўвесь прычал крычала:
— Сваячок мой шчупачок,
Дай дашчэчку і цвічок.

Апранае грак
Чорны-чорны фрак.
Будзе дырыжорам
У сарочым хоры.

Пэкала-мэкала
Акала, бэкала,
Пэкала-мэкала
Закукарэкала.

Гаспадарлівы бабёр
Па рацэ вярбіну пёр.
І бабрыха не драмала —
Побач з ім плыла-нырала.

Ой, бяда! У барана
Ранкам знікла барана.
Поле чым баранаваць?
Трэба граблі ў краме браць.

Дагарэў у лямпе кнот.
Замаркоціўся наш кот:
Ён не дачытаў раман.
Памажы кату, Раман.

Зебра зебру дакарала:
— Мала траўкі ты нарвала.
Будуць румзаць зебраняты,
Што жывоцік пуставаты.

На карме
кармілі краба.
Па карме краб
Брушкам шкрабаў.

Сом бачыў сон:
У вірлівым віры
Васьміног плыў
дагары.

За качкай ходзяць
качаняты,
А за гускай —
Гусяняты,
За кароваю —
Бычок,
А за свінкай —
Парсючок.

На бярозе рак,
У рачулцы грак,
Пад канапай крот,
А у норцы кот.

Жук пытаецца ў жука:
— Ты чаму без пінжака?
— Я памыў свой пінжачок
І павесіў на сучок.

# ЭКІПАЖ

Дружным экіпажам ехалі літары ў краіну Букварню. Чуюць, нехта эгегекае:

— Эге-гей!.. Эге-гей!..

Прыпыніліся. Падлятае Э, сарамаціць:

— Эх, якая азбука без Э?..

— Эй, Э, сядай экстранна ў наш экіпаж, — закрычалі літары.

Паехалі далей. Раптам чуюць:

— Лю-юдзі! Ю-юрка, Ю-юля. Ню-юрка, Ню-юся, чакаю вас, ю-юшка гатова...

— Ты хто? — пытаюцца літары.

— Галосная **Ю**.

— Давай з намі ў Букварню.

**Ю** юркнула ў вясёлую кампанію.

Усе літары пачалі выхваляцца: я тое, я гэта, я там, я тут, я з тым, я з гэтым.

Прыпыняе экіпаж незнаёмая літара, якоча:

— Як-нiяк я — **Я**. Ваша яканне без **Я** ямчэ не яканне.

Літары змоўклі. Цяпер **Я** выхвалялася:

— Я хаця і апошняя ў азбуцы, а без мяне цяжка. **Я** — яздок. Мой язык якраз завядзе вас да дзяцей.

— **Я**, сядай у наш экіпаж, — папрасілі літары.

Па дарозе яны падабралі яшчэ **Ы**, **Ь** — мяккі знак, **'** — апостраф, **ў** — у кароткае.

Вясёлым, дружным экіпажам прыехалі ў Букварню. **Аа, Бб, Вв, Гг, Дд, Дждж, Дздз, Ее, Ёё, Жж, Зз, Іі, й, Кк, Лл, Мм, Нн, Оо, Пп, Рр, Сс, Тт, Уу, ў, Фф, Хх, Цц, Шш, ы, ь, Ээ, Юю, Яя.**

Сябры, сустракайце літары азбукі. Сябруйце з імі!

**УЛАДЗІМІР ЛІПСКІ**

АДГАДАНКА „ПАДАРОЖЖА"

Маршрут шосты. На карце СССР: *Уза — азу; Яя, Шуш, Шыш; Шар'я — Яраш; Хулга — аглух; Ток — кот; Тара — арат; Сум-сар — Расмус; Аха; Лок-са — аскол; Кія — Яік; Карам — марак; Інга — агні; Ея — ея; Аган — нага; Севан — навес* і інш. На карце свету: *Акра — арка; Харк — крах; Хаб — Бах; Тоса — асот; Туар — раут; Саву — у вас; Ром — мор; Рур; Бар — раб; Навія — я Іван; Муш — шум; Маас — саам; Лод — дол; Кувен — невук* і інш. Маршрут сёмы. *Аса — ара; Ата — апа.* 10 слоў. *Гул, кум, бук. Кат, кот, кут. Кок.* 12 слоў. 11 слоў. *Рататар.*

# ПАДАРОЖЖА ПА МОВАЗНАВІІ

31

*(працяг з папярэдняга нумара*

**Маршрут шосты,**

які прывёў нас да вялікай геаграфічнай карты. А побач з картай — аб'ява: „Праводзіцца конкурс — хто больш знойдзе на карце слоўпаліндромаў". Мы разгубіліся: карта вялікая, як іх там шукаць? Але тут падышоў адзін *вядомы падарожнік* і параіў нам:

— Бачыце, паралелі і мерыдыяны на карце ўтвараюць клеткі. Кожны з вас разглядае адну клетку — так вам бу--дзе лягчэй, і ўсе знаходкі складайце ў адну скарбонку, камандную. А тады ўжо можа праводзіць конкурс каманд або асабісты: тлумачыць значэнні слова пры чытанні ў абодвух напрамках.

Мы падзякавалі і так заўзята пачалі даследаваць карту, што адразу ж па-чулася:

— Ой, знайшоў!

— Во, яшчэ!

— Ух, адразу два словы!

Падарожнік, які пайшоў быў ад нас, вярнуўся і сказаў:

— А ці заўважылі вы, што сярод *выклічнікаў* ёсць таксама паліндромы? Закончыце з картай — успомніце пра іх. Мы закончылі і ўспомнілі. Сапраўды, ёсць. На гэтым закончыўся наш шосты маршрут, і мы пайшлі адпачываць, а назаўтра падарожнічаем па

**Маршруту сёмаму,**

апошняму. Першае, што мы ўбачылі, — на нашых вачах *насякомае* ператварылася *ў птушку*, а *птушка* нам *сказала:*

— Так вось можна ператварыць *мужчыну ў жанчыну*, успомніўшы формы звароту да старэйшых у сярэднеазіяц-кім рэгіёне і замяніўшы адну літару на другую, як у метаграмах.

Пайшлі мы па дарозе — вядома, перш разабраўшыся ў гэтых ператварэннях: і вось перад намі рэчка, а праз яе — мосцік, а за ім — палац. Толькі наважыліся перайсці праз масток, а ён тым канцом, што прымыкаў да палаца, пачаў падымацца і паўстаў перад намі зусім як класная дошка. Мы зразумелі, што не перайсці нам праз яго, пакуль не адгадаем нейкія загадкі, — так заўсёды ў казках бывае. Вось што на гэтым мосціку напісана:

*Палічыце, колькі слоў у гэтым квадраце:*

| | | |
|---|---|---|
| б | у | г |
| у | у | у |
| к | у | к |

*Устаўце ў пустыя клеткі патрэбныя літары, і вы прачытаеце ў першым квадраце восем, а ў другім — дзесяць слоў:*

| | | |
|---|---|---|
| | у | |
| | у | |
| | у | |

| | | |
|---|---|---|
| к | | т |
| к | | т |
| к | | т |

*Устаўце ў пустыя клеткі літары так, каб словы чыталіся аднолькава ва ўсіх напрамках:*

| | | |
|---|---|---|
| | о | |
| о | | о |
| | о | |

*Колькі слоў можна прачытаць у гэтых квадратах?*

| | | |
|---|---|---|
| а | с | а |
| с | о | н |
| а | н | я |

| | | |
|---|---|---|
| а | р | а |
| с | д | к |
| а | к | а |

На папярэдніх маршрутах мы грунтоўна пазнаёміліся з паліндромамі, таму ўсе гэтыя квадраты разгадалі, і мосцік апусціўся перад намі. Але ісці ў палац да караля ніхто не пажадаў — не надта цікава мець справу з такімі каралямі і іх такімі ж падданымі, і мы пайшлі па беразе рэчкі, каб да канца дня закончыць наш апошні маршрут. І вось — апошняе выпрабаванне: вежа, на якой паказальнік-стрэлка ўверх, і надпіс: *узнагарода.* Ну, што ж, узнагарода была нам абяцаная ў пачатку нашага падарожжа. Праўда, за ёю трэба лезці на вежу... ды тут недзе павінна быць лесвіца. Вось яна! Толькі з яе нехта паскідаў усе прыступкі, яны валяюцца на зямлі. Незвычайныя прыступкі — на кожнай дзве літары *а* і тры пустыя месцы. Усё зразумела: кожную прыступку можна пакласці на месца, толькі падабраўшы адпаведны паліндром. За работу, і глядзіце, каб хапіла прыступак далезці да ўзнагароды! Хто хутчэй? Колькі атрымалася прыступак?

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| | а | | а | |

Ну, вось, нарэшце, мы на вежы. Тут нас чакае... сама гаспадыня Мова! Яна вітае нас і гаворыць:

— Вы прыйшлі за ўзнагародай? А яна ўжо ў вас! Пераадольваючы перашкоды, перамагаючы цяжкасці, вы авалодвалі маімі багаццямі, набывалі свой моўны багаж, які за плячыма не несці і які чым большы, тым лягчэйшы. І яшчэ ўзнагароду вы неўзаметку набылі. Адгадайце якую? Дапамагу вам загадкай: *чым больш бярэш — тым больш аддаеш; чым больш аддаеш — тым больш маеш.* Адгадалі? А цяпер з гэтай высокай вежы, назву якой вы толькі што адгадалі, паглядзіце на мае ўладанні — бачыце, яны бясконцыя. Вы прайшлі толькі па малой іх частачцы, а колькі яшчэ цікавейшых маршрутаў тут вы можаце выбраць — на ўсё жыццё хопіць!

Гаспадыня Мова падышла да *апарата, на якім размнажаюць тэксты і розныя дакументы* (як ён называецца?) і ўручыла кожнаму з нас пасведчанне, што ён паспяхова прайшоў усе сем муршрутаў Люстранога каралеўства.

**Развітваемся з Вамі да верасня!**

*МАКСІМ БАГДАНОВІЧ*

## КРАЮ МОЙ РОДНЫ! ЯК ВЫКЛЯТЫ БОГАМ...

Краю мой родны! Як выкляты Богам —
Столькі ты зносіш нядолі.
Хмары, балоты... Над збожэм убогім
Вецер гуляе на волі.

Поруч раскідаліcь родные вёскі.
Жалям сціскающа грудзі! —
Бедные хаткі, тапoлі, бярозкі,
Усюды панурые людзі...

Шмат што зрабілі іх чорные рукі,
Вынясьлі моцные сьпіны;
Шмат іх прымусілі выцярпець мукі
Пушчы, разлогі, нізіны.

Кінь толькі вокам да гэтага люду —
Сціськецца сэрцэ ад болю:
Столькі пабачыш ты гора усюды,
Столькі нуды без патолі.

Песьня пяе, як удовіна сына,
Янку, кахапьне згубіло:
Там, дзе панура схілілась каліна,
Беднаго хлопца магіла.

У гутарках-казках аб шчасьці, аб згодзе
Сэрцэ навін не пачуе.
Сціснуло горэ дыханьне ў народзе,
Горэ усюды пануе.

Хваляй шырокай разлілось, як морэ,
Родны наш край затапіло...
Брацьця! Ці зможэм грамадзкае горэ?!
Брацьця! Ці хваце нам сілы?!

*(Вянок, 1913 г.)*

## ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

Васьмігадовы хлапчук, вярнуўшыся са школы, расказвае бацьку:

— Мірак сказаў сёння аб настаўніку вельмі брыдкае слова.

— Якое?

— Ты ж мне не дазваляеш гаварыць брыдкія словы, але ты скажы ўсе тыя, што звычайна ўжываеш, а я ў патрэбны момант пакашляю.

* * *

Бацька купіў сыну новыя чаравікі. Увечары яны пайшлі да сваякоў у госці. Па дарозе бацька запытаў у сына:

— Ірак, ты — у новых чаравіках?

— Але, тата, — адказвае сын.

— Тады шырэй кроч, — параіў бацька.

* * *

Настаўнік, расказваючы на ўроку пра серную кіслату, пытаецца:

— Зараз я апушчу гэты залаты пярсцёнак у кіслату. Скажыце, ці сапсуецца метал ад кіслаты?

Усе маўчаць.

— Не! — крыкнуў раптам адзін з вучняў.

— А чаму? — запытаў настаўнік.

— Калі б сапсаваўся, вы не апусцілі б яго!

* * *

— Чаго ты кульгаеш, Сымонка, ці можа захварэў?

— Але, штосьці зубы баляць.

**ЯНКА ЛЯЎКОЎСКІ**

## ЛАГАГРЫФ



1. мэбля для сядзення, 2. касмічны транспарт, 3. прастора, у якой знаходзяцца планеты і зоркі, 4. дзяржава туркаў, 5. работнік, які здабывае вугаль, 6. каляровая птушка, якая сваім стукам лечыць нашыя дрэвы.

Вылучаныя літары складуць назву каталіцкай святыні.

# ЯШЧЭ РАЗ ПРА МАЛАКО

Малако — выключны прадукт прыроды. Можна без перабольшання назваць яго „эліксірам жыцця". У першыя часы жыцця малако служыць адзінай ежай, спачатку мацярынскае, затым каровіна ці казінае, і пры гэтым дзіця нармальна расце і развіваецца. Малако павінна ўваходзіць у рацыён усіх узроставых груп насельніцтва, асабліва ж карыснае яно пажылым і састарэлым.

У саставе малака больш як 100 розных каштоўных кампанентаў: бялкі, тлушчы, малочны цукар, мінеральныя солі, вітаміны, ферменты, гармоны і іншыя біялагічна актыўныя рэчывы. Па паўнаце хімічнага саставу з малаком не можа параўнацца ніякая іншая натуральная ежа. Многія кампаненты малака прырода не паўтарае ў іншых прадуктах. Гэта дае магчымасць разглядаць яго як універсальны прадукт харчавання.

Харчовая і біялагічная каштоўнасць малака заключаецца ў аптымальнай збалансаванасці яго кампанентаў, лёгкай засваяльнасці. Хімічны састаў малака непастаянны, вагаецца ў залежнасці ад пары года, колькасці і якасці кармоў, пароды жывёлы, перыяду лактацыі.

Энергетычная каштоўнасць 100 г каровінага малака складае ў сярэднім 65 калорый. У адной шклянцы — 130 калорый. Малочныя бялкі ўтрымліваюць абсалютна ўсе незамянімыя амінакіслоты, без якіх немагчыма жыццё чалавека. Яны больш каштоўныя, чым бялкі мяса і рыбы, і лепш ператраўліваюцца.

Тлушч малака — лепшы з вядомых харчовых тлушчаў і па саставу, і па смаку, і па засваяльнасці. Сярэдняя тлустасць каровінага малака — 3,6%, а казінага — 4,2%.

У сялянскім масле больш лецыцінавых абалонак, таму што пры збіванні іх менш ідзе ў маслёнку. Біялагічная каштоўнасць такога масла вышэйшая.

У малацэ ўтрымліваецца 4,7% малочнага цукру — лактозы. Без яе мы не мелі б сыраквашы, кефіру, кумысу, тварагу, смятаны, сыру. Справа ў тым, што брадзільныя працэсы, якія выклікаюцца мікраарганізмамі, магчымыя толькі пры наяўнасці малочнага цукру.

Лактоза па сваёй пажыўнай каштоўнасці не адрозніваецца ад звычайнага бурачнага ці трысняговага цукру, але менш салодкая і хутка амаль поўнасцю засвойваецца арганізмам. Паступленне лактозы ў кішэчнік аказвае нармалізуючае ўздзеянне на карысную кішачную мікрафлору.

Аднак трэба памятаць, што каля 10% людзей не пераносяць свежага малака. Гэта абумоўлена нястачай у страўнікава-кішачным тракце фермента лактозы, які расшчапляе яе на глюкозу і галактозу, у асобных выпадках можа быць звязана і з рознымі захворваннямі страўнікава-кішачнага тракту. Такія людзі добра пераносяць кісламалочныя вырабы — кефір, сыраквашу, таму што гэтыя прадукты падаўляюць дзейнасць гніласных бактэрый у тоўстым кішэчніку.

У малацэ ёсць літаральна ўсе элементы табліцы Мендзялеева. У параўнанні з іншымі прадуктамі яно асабліва багатае солямі кальцыю, фосфару, якія ідуць на ўтварэнне касцей, зубоў, крыві, нервовых тканак.

**ЯН МАРХОЦКІ**

# „СТРАНІЦА ЛЕПШАЯ Ў ШТОДЗЁНЬНІКУ ЖЫЦЬЦЯ...”

*З ВЫДАТНАЙ БЕЛАРУСКАЙ ПАЭТКАЙ ДАНУТАЙ БІЧЭЛЬ-ЗАГНЕТАВАЙ ГУТАРЫЦЬ АДА ЧАЧУГА.*

**26 мая 1994 года адбылося ўрачыстае адкрыццё пашыранага, разбудаванага Музея Максіма Багдановіча ў Гародні. Сабралася тут шмат і афіцыйных гасцей, і сяброў беларускай паэзіі з Гародні і ваколіц. Прыехалі з Менска народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч, міністр культуры і друку Анатоль Бутэвіч, супрацоўнікі Музея М. Багдановіча ў Менску на чале з яго дырэктарам Алесем Бяляцкім. У Гарадзенскім тэатры лялек адбыўся літаратурны вечар, прысвечаны гэтай падзеі.**

**Як вядома, фактычнай стваральніцай музея была і ёсць паэтка Данута Бічэль-Загнетава, з якой „Ніва” сябруе ўжо здаўна. У музеі, дзе сёння сем пакояў экспазіцыі, ёсць такое ўтульнае месца — невялічкая куханька пад лесвіцай, за шторай. Там нам гутарылася найлепш. І няхай чытач прабачыць мне тое „тыканне”. Не з фамільярнасці гэта, а з пашаны, блізкасці.**

*— Чаму ты, Данся, так заўзялася на Багдановіча, каб зрабіць гэты музей, хаця было так цяжка і ты нават пісала нам пра гэта ў „Ніву”?*

— Калі пачынаеш Максіму служыць, гэта ўцягвае. Гэта можа адзіны беларус, які не блямкаў языком, а нешта рабіў.

Вось хаця б Янка Купала. З яго грудзей выліваўся шквал слоў, думак, пратэсту, але прафесійна ён над словам не працаваў. Вогненнае полымя, лава цякла з яго — і ўсё. Купала поўнасцю не выкарыстаў свайго таленту.

А Максім — наадварот. Яму прырода вельмі мала дала. Усяго дасягнуў сваёй працай. Пачаў з тугі па Беларусі, адзіноты, болю і самоты. У Ніжнім Ноўгарадзе, Яраслаўлі ўсім ён быў чужы. А найбольш чужы быў яму родны бацька. У беларусаў не бачу наогул пачуццяў між бацькамі і дзецьмі...

*— Я думаю, ты занадта абагульняеш гэту справу. Ты — вялікая нігілістка!*

— Але так гэта ёсць!

Мы тут усё ж можам нечым пагрэцца: заплакала беларуская птушка каня, вярнуліся з далёкіх краёў беларускія гусі, пра якіх Купала пісаў: „Вы ня ўмееце шчэ, гусі, выракацца Беларусі, як умеюць людзі”. Максім усяго гэтага не меў.

*— А мне здаецца, з паэтамі заўсёды так бывае: паэзія нараджаецца з болю...*

— Можа часткова, але не заўсёды. Памятаю, як сёння, якая я была шчаслівая, калі сядзела на бярвеннях за бацькавай хатай і пісала вершы, а падгадаваныя дзеці гулялі ўжо адны ў садку.

Ды толькі вось і ў нашых бацькоў, і ў нашых дзяцей узнікае нейкі пратэст: чаму гэта менавіта мая дачка ці маці — паэтка, не такая, як усе. Ці не лепш было б, каб працавала яна на абутковай фабрыцы і прыносіла крадзеныя боты...

У цэлай вялікай радні Багдановіча ўсе былі падобныя. Усе цэлым кагалам ездзілі па Расіі, нібы выбіралі прэстыжныя прафесіі, усе служылі матушцы Расіі і цару-бацюшку. І толькі адзін Максім выламаўся сярод іх.

Яму было так кепска, што сядзеў і капаўся ў кнігах. Ён пералапаціў усё, што можна. Сапраўдны Максім-кніжнік! Рабіў гэта з думкай, як выкарыстаць усё гэта для свайго народа, якога ён не бачыў і ў яго ўяўленні ён быў вельмі прыгожы.

*— Праўда! Зводдалі Беларусь здаецца найлепшай, найчысцейшай і надта блакітнай...*

*Мяркую, што нашым чытачам будзе цікава ведаць, якія дарогі прывялі цябе ў музей Максіма Багдановіча.*

— У гэтым музеі я з 1982 года. Дагэтуль я працавала ў сярэдняй школе, выкладала беларускую мову і літаратуру. Спачатку я працавала ў добрай — гэта была вячэрняя школа рабочай моладзі, я ўспрымала іх як людзей. Калі гэту школу зачынілі, я ў наступнай не змагла прыжыцца. Была „неудобная”: нават на перапынках гаварыла па-беларуску. Тады я пайшла ў дзённую школу, дзе зразумела сваю „прафесійную” непрыгоднасць: не ўмела крычаць на вучняў.

У 1981 годзе зрабілі рамонт у доме, на якім вісела мемарыяльная дошка, што тут жыў у гадах 1892—1896 Максім Багдановіч (так гэта робіцца ў нас — сапраўды, дом Багдановічаў знаходзіўся амаль побач, ды толькі не ўцалеў да нашых дзён). Дом быў пабудаваны ў 1883 годзе, рамонт зрабілі ў 1981-ым і адну з кватэр пакінулі для ўстановы культуры. Ніхто не хацеў яе браць. Бібліятэка адмовілася. Выспела думка. што варта зрабіць тут музей Максіма Багдановіча. Вось і дошка вісіць.

Кватэра пуставала, забруджвалася, а я шукала „лёгкай” работы, якую магла б выконваць пры цяжка хворым мужу.

Максім Танк дапамог мне атрымаць пасаду малодшага навуковага супрацоўніка Літаратурнага аддзела Гісторыка-археалагічнага музея. Такі статус дарэчы музей носіць па сённяшні дзень.

*— Калі я была ў музеі ў восемдзесят дзевятым, усё выглядала даволі скромна.*

— Так, мы сапраўды мелі тады скромную экспазіцыю ў пару пакоях. Але да 100-годдзя Багдановіча нам запланавалі аддаць чатыры кватэры (замест адной, якая была дагэтуль). І так мы пашыралі і вялі рэстаўрацыю музея з дзевяноста першага года. Расшырыліся практычна на дзве кватэры, чатыры сям’і не згаджаюцца выбрацца з гэтага дома.

Але, мушу прызнацца, нават і раней здараліся наведвальнікі, якія, агледзеўшы экспазіцыю, казалі: „Тут так утульна. Можна, я пасяджу ў вас?!” Даволі часта ў мяне пыталіся: „Вы не яго сваячка? Адкуль вы ўсё пра яго ведаеце?” У мяне на душы рабілася цёпла і я думала, што Максім мог бы быць добрым сваяком кожнага беларуса.



*У гэтым доме месціцца Гарадзенскі музей Максіма Багдановіча.*

*— Тое, што адбылося на працягу апошніх гадоў, гэта была, як бачу, не толькі рэстаўрацыя дома, не толькі пашырэнне музея, але хутчэй за ўсё і змена экспазіцыі!*

— Мы стварылі музей на падставе кватэры Багдановічаў па звестках, якія дайшлі да нашых дзён — з перапіскі, з успамінаў, з дэталяў, з вершаў. Максім — паэт дэталяў, па іх можна вывучаць гісторыю Беларусі. „Псалтыр, пакрытую няжорсткай, бурай кожай, я ўзяў і срыбную засцёжку адамкнуў. Перачытаў радкі кірыліцы прыгожай і воску з ладанам прыемны пах адчуў”. Усе гэтыя дэталі мне хацелася ўвасобіць у экспанаты і я нават павыпісвала сабе гэтыя дэталі для пошукаў.

*— Неспакушанаму чытачу гэтай нашай гутаркі магло б здавацца, што ты перш за ўсё — супрацоўнік музея, а не вялікая паэтка. Мо пералічыш нам свае зборнікі паэзіі?*

— Ну, Ада, ты ж ведаеш мае кніжкі. А, зрэшты, усё ёсць у энцыклапедыі.

*— А ўсё ж такі, што ты лічыш за найважнейшае?*

— Першы зборнік паэзіі „Дзявочае сэрца” выйшаў у 1961 годзе, калі я была студэнткай чацвёртага курса Гродзенскага педінстытута імя Я. Купалы. Пасля быў „Нёман ідзе”, „Запалянкі”, „Доля”, „Дзе ходзяць басанож” — за яе я атрымала літаратурную прэмію Янкі Купалы, „А на Палессі”, „Божа мой, Божа”, а цяпер вось дзіцячы зборнік „Гараднічанка”.

*— Нехта сказаў мне, што ва універсітэт цябе на працу не ўзялі, хаця некаторыя прабуюць пісаць па тваёй творчасці дысертацыі.*

— Не запрашаюць нават дзеля нейкага спецкурсу па ўласнай паэзіі...

*— І яшчэ кажуць, што з музеем ты білася ўсе гэтыя гады амаль адна...*

— Людзі дапамагалі.

*— Няўжо твой гіганцкі ўклад працы ў разбудову музея не перашкодзіў табе ў пісанні?*

— Гэта не музей, Ада. Музей — гэта не тое. Я ніколі не пісала без натхнення, а з гэтага вынікае, што пісала тады, калі атрымлівалася. Калі ты працуеш над вершамі — ты шчаслівы. Асабліва, калі ўдаецца. Не магу паўтарацца. Нашто мне перці нейкае графаманства!

*— Спытаю інакш: ці не шкада табе, вялікай паэтцы, гэтага часу?*

— Мы не выбіраем, што нам рабіць. Я не магла сабе дазволіць, каб быць толькі паэткай. У музеі я магла быць зусім адна. Быць толькі з сучкай Бонкай. Плечы Багдановіча мяне абаранялі. Мне было і ёсць тут добра. Музей надаў жыццю сэнс. Гэтыя паездкі па Беларусі і беларусах, жмудныя пошукі па знаёмых — мы ж ведаем, у якога беларуса можна штось знайсці. Жыве недзе дзядок у Іўі, якога я люблю за тое, што ёсць у яго жалейка Янкі Купалы. Ну не мог ён яе адарваць ад сэрца!..

Прыходзяць сюды і выпадковыя людзі. З тупой неадукаванай настаўніцы не зробіш іншай, але ёсць магчымасць паспрабаваць узварушыць нешта ў ейнай заскарузлай душы. Ад гэтай паэзіі не стамляешся.

Пішу дзённік і вершы таксама.

*— Дык, значыцца, „Старонка лепшая ў штодзённіку жыцця”?..*

— Так. Напэўна!

*Гутарылі 27 мая 1994 года ў Музеі Максіма Багдановіча ў Гародні.*
*Інтэрв’ю не аўтарызавана.*

**Фота Ады Чачугі**



*Данута Бічэль-Загнетава ў музеі. Злева — народны паэт Ніл Гілевіч.*




*МІРА ЛУКША*

**конік**

драўляны конік навекі заснуў у павуцінні
шашаль-брат кончыў трызну і сэрца рассыпаў
і толькі час ад часу усхліпне дрыготка
хтосьці ў пыльным падстрэшку тузане вуздэчку
і кульгавым капыткам скусаным мышамі
пошчакам барабанным застукае ў памяць

**бутэлька**

сніцца камню агонь пад пахілым сонцам
над пожняй што стыне у асеннім ветры
расплаўленым кварцам вырасце у форму
і згорбіцца ў пастку празрыстай прасторы

**дзікае мяса**

жывёлы
нежывыя
сняць у лядоўнях вызваленне

іх душы доўга залягаюць
нашы глыбокія вантробы
доўга і пільна пpainting
іх малочнае і травяное дзяцінства
і дым ахвярны ідзе ўверх
адрыжкаю да Пана

*УЛАДЗІМІР САЎЧУК*

**заўтра**

прабудзілася адвага
ў душы маладой
вярнуўся загублены снежань
трэба нам прабіцца
і верыць цяпер
ў размеры дэмакратыі свежай
адкуль развязалі язык маладым
адкуль закапалі чырвоную дружбу
ўнучак і сын за дзедам старым
горнуцца гуртам Богу на службу
як цяжка выкарміць родны квартэт
у кашалёк заблудзіўся і вецер галодны
на сцяне кінуты пажоўклы партрэт
блізкасць далёкага
ў вечар халодны

* * *

як скіба на скібу кладзецца размова
вось праўду з мяшка выкідаюць на брук
— чаму гэта людзям так цяжка
заглянуць гісторыі ў сундук
— не нам простым людзям сварыцца і спорыць
— не нам простым людзям адолець навуку
хто верыць у Бога сапраўды хай скажа
сусед мой хрысціянін і дасць яму руку

ці нашае праўды не піша жыццё
бяда распранулася чакаючы ночы
так цяжка прызнацца да грэху свайго
глянуць мінуламу ў вочы

# НАШЫ КАРАНІ

## LXVI. ВЕЧНЫ ПІЛІГРЫМ

Са славутай беларускай друкарскай тройцы — Івана Фёдарава (Федаровіча), Пятра Мсціслаўца і Грыня Івановіча — сёння затрымаемся на асобе Пятра сына Цімафея з беларускага горада Мсціслава.

Некаторыя вучоныя мяркуюць, што гэты надзвычай таленавіты мастак пачынаў свой творчы шлях у віленскай друкарні Георгія (Францішка) Скарыны, недзе перад 1530 годам. Хаця на падмацаванне такога погляду амаль не існуе ніякіх матэрыяльных доказаў, але няма таксама ніякага іншага вытлумачэння тае дзівоснае з'явы, што каля 1564 г. аказаўся Пятро Мсціславец у Маскве адразу як адмысловы майстар друкарскай справы, адароны гравёр. З рук П. Мсціслаўца і І. Фёдарава ў 1564 г. там выйшаў „Апостал" — „выдатны ўзор друкарска-паліграфічнага і мастацкага майстэрства", — як піша беларускі мастацтвазнавец В. Шматаў. У гэтае выданне вялікі ўклад свайго майстэрства і карпатлівай працы ўнёс П. Мсціславец. „Мы б не здзівіліся, калі б аказалася, што Мсціславец у нейкай ступені нават вучыў Івана Фёдарава малюнку або гравіроўцы фігур. Уяўляецца, што Пётр Мсціславец з самага пачатку засвоіў перакрыжаваную штрыхоўку, а Іван Фёдараў толькі вучыўся ёй, і навучыўся пазней", — піcaў расейскі знаўца старажытнай кнігі А. Сідараў.

Заблудаўскае „Евангелле вучыцельнае" — гэта наступны вялікі крок наперад у дасканаленні майстэрства абодвух друкароў, але таксама і ўзаемнае адасабленне: кожны з іх, відаць, знайшоў свой адметны творчы шлях. Разам ім было ўжо цесна, адзін другому перашкаджаў, і іхнія дарогі разышліся. Сябры падзялілі паміж сабою друкарскае абсталяванне, і Мсціславец падаўся ў Вільню.

У Вільні пры грашовай дапамозе скарбнага Вялікага княства Літоўскага І. Зарэцкага і яго брата — віленскага раднага, а таксама купцоў К. і Л. Мамонічаў П. Мсціслаўца заснаваў друкарню і ў гадах 1575—76 выдаў „Евангелле напрастольнае", „Псалтыр" і „Часоўнік". Усе тры кнігі — гэта вяршыня тагачаснага друкарскага і гравёрскага майстэрства. Кнігі складзены вялікім чытэльным прыгожым шрыфтам, роўненькімі радкамі з чырвонымі зачаткамі раздзелаў. З асаблівай старраннасцю мастак выпеставаў першую з іх, здобячы яе гравюрамі чатырох Евангелістаў, Распяцця, адзінаццацю застаўкамі і вялікімі ініцыяламі. „Якая тут разнастайнасць штрыха, дасканаласць разца! Лініі то павольна, меладычна абкружаюць абрысы фігур, то раптам „узрываюцца" казачным фееверкам раслiннай арнаментыкі фону. Паралельная штрыхоўка архітэктурных матываў удала спалучаецца з перакрыжаванымі лініямі фігур і хвалепадобнымі штрыхамі пышнага лісця", — усклікае В. Шматаў.

Створаны П. Мсціслаўцом выдавецкія шэдэўры, дзякуючы зваротлівасці і шырокім гандлёвым сувязям Зарэцкіх і Мамонічаў, хутка разышліся па ўсёй Беларусі і Украіне, трапілі ў Расею і іншыя бліжэйшыя і далейшыя краіны. Купцы, відаць, з гэтых таленавітых працаў мелі немалы прыбытак, затое мастак жыў ва ўбостве. І гэта стала прычынай, што ў 1576 г. ён падаў сваіх „дабрадзеяў" у суд, і ў выніку працэсу адсудзіў ад іх усю маёмасць друкарні. Аднак пасля гэтай перамогі след па П. Мсціслаўцу знікае.

Можна меркаваць, што ён у той час быў старым чалавекам і знайшоў прытулак у Супрасльскай лаўры, і тут закончылася яго зямная вандроўка. Пра гэта



*Старонка з "Евангелля напрастольнага" П. Мсціслаўца, Вільня, 1575 г.*

можа сведчыць таямнічы шрыфт „заблудаўскага крою", які, як падаюць перапісы манастырскай маёмасці, доўгі час захоўваўся ў кладоўцы. Магчыма, што выдатны друкар намагаўся заснаваць у лаўры друкарню, але смерць перашкодзіла гэтай задуме? Існуе і іншае меркаванне. Вядомы беларускі гісторык Г. Я. Галенчанка сцвярджае: „Яго друкарскія матэрыялы (шрыфты, арнамент, ламбарды) пазней заўважаюцца ў выданнях Астрожскай друкарні („Кніга аб посніцтве", 1594 г., „Часаслоў", 1602 г.), што дае даследчыкам падставу лічыць Мсціслаўца адным з ананімных майстроў Астрожскай друкарні". Вядома, ні шрыфт, ні іншыя друкарскія матэрыялы не могуць верагодна сведчыць пра апошняе месцапрабыванне мастака — усё гэта толькі здагадкі.

Як дата нараджэння, так і дата смерці гэтага выдатнага пілігрыма застаюцца невядомымі.

**МІКОЛА ГАЙДУК**

# МОНАФЕЛІТЫЗМ

Монафелітызмам была названая тэалагічная дактрына, паводле якой гістарычны Хрыстос меў толькі адну боскую волю і адну энергію, таму што будучы чалавекам, не мог хацець грашыць. Грэх Хрыста быў немажлівы, бо ён не меў чалавечай грэшнай волі. Гэтая дактрына нарадзілася сярод палітыкаў партыі Зялёных, каб памірыць у Візантыі монафізітаў (якія прызнавалі толькі адну боскую натуру ў Хрысце), а асабліва хрысціян Егіпта з хрысціянамі староннікамі Халкідона. Монафізіты гатовыя былі паверыць, што Хрыстос меў дзве натуры, пры ўмове, што чалавечая натура Ісуса не магла грашыць. Гэта давала ім дактрына монафелітызму. Рэлігійная барацьба аслабляла Візантыю. Ужо ў 616 г. персы захапілі Палесціну і Сірыю, а ў 619 г. — Егіпет і пачалі пагражаць Канстанцінопалю. Кансерватыўная партыя Блакітных не цікавілася нацыянальнымі праблемамі і не хацела памірыцца з монафізітамі. Імператар Фока адабраў уладу ў Блакітных, а яго наступнік імператар Іраклій ішоў на ўступкі з монафізітамі, каб умацаваць дзяржаву. Дапамагаць яму пачаў патрыярх Сяргей (610-638), які хутчэй быў палітыкам, чым тэолагам і ў 619 г. стварыў дактрыну монафелітызму, якую падтрымаў патрыярх Егіпта. У сувязі з тым егіпецкія манахі падпарадкаваліся імператару. Імператар Іраклій баяўся, што папа рымскі выступіць супраць монафелітызму, як дактрыне нязгоднай з „Дагматычным лістом" (Томасам) папы Льва I. Але аказалася, што папа Ганорый I (625—638) быў верным слугой імператара Іраклія і згадзіўся з новай дактрынай. Ён у 634 г. напісаў патрыярху Сяргею, што з ім згаджаецца: „І мы таксама верым у адну толькі волю Пана нашага Ісуса Хрыста". Супраць монафелітызму выступалі патрыярх Іерусаліма Сафроній і канстанцінопальскі манах Максім Іспаведнік. Папа Ганорый I назваў навуку патрыярха Сафронія аб дзвюх волях Хрыста „скандалам новага вынаходства", хаця вядома было, што дактрына патрыярха Сяргея з'яўляецца „новым вынаходствам". У 638 г. імператар Іраклій выдаў эдыкт, у якім наказваў верыць у адзіную волю Хрыста. Эдыкт гэты прынялі патрыярх Сяргей з Канстанцінопаля, а таксама патрыярхі Александрыі, Антыёхіі і патрыярх Іерусаліма Сяргей, які заняў месца Сафронія пасля яго смерці ў 637 г. Шчасцем для папства было тое, што калі эдыкт імператара дайшоў у Рым, папа Ганорый I ужо не жыў, бо памёр у кастрычніку 638 г. і таму ён яго не падпісаў. Наступны папа Северын I (640) правіў толькі тры месяцы (май—ліпень) і памёр. Папа Іаан IV (640—642) пры інтранізацыі прыняў эдыкт імператара, але ў лютым наступнага года склікаў у Рым сінод, які выступіў супраць навукі Іраклія. Але калі гэта паведамленне дайшло ў Канстанцінопаль, імператар Іраклій ужо не жыў, а між яго сынамі дайшло да барацьбы за трон, у якой бралі ўдзел дзве візантыйскія партыі. Блакітныя падтрымалі Канстанціна, які выступіў супраць эдыкта свайго бацькі. На погляды папы Іаана IV меў уплыў Максім Іспаведнік, які сем гадоў быў на Захадзе. Імператара Канстанціна атруціла яго мачыха, якой памагалі дзеячы партыі Зялёных і новым імператарам стаў Іраклёна. Але пасля паўгода Блакітныя ізноў захапілі ўладу і імператару Іраклёну абрэзалі нос, а яго маці язык і выгналі. Імператарам стаў сын Канстанціна, Канстант II (642—668), а патрыярхам — Павел II. У кастрычніку 642 г. у Рыме папам выбралі Фёдара (642—649). Калі яму патрыярх Павел II прыслаў „Сінадальны ліст", у якім ён выказаў веру ў адну волю Хрыста, то папа кінуў на яго праклён. І так паўстала новая схізма. Імператар Канстант II лавіраваў паміж дзвюма партыямі, якія мелі роўныя сілы, але ў 648 г. аб'явіў свой дагматычны ліст „Тыпос", у якім забараняў выступаць супраць монафелітызму бо яго пісаў патрыярх Павел II на падставе „Другога дагматычнага ліста" папы Ганорыя I, пісанага патрыярху Сяргею. Імператар хацеў устараніць схізму, але не мог, бо Рым разам з візантыйскім экзархам Алімпіем арганізаваў супраць імператара загавор, у якім прыняў удзел наступны папа Марцін I (649—655). Ён склікаў сабор епіскапаў (649 г.), які асудзіў монафелітызм і эдыкты імператара Іраклія і Канстанта II. Імператар загадаў свайму намесніку ў Равене арыштаваць папу. Ён разбіў загавор і прывёз папу Марціна і манаха Максіма Іспаведніка ў Канстанцінопаль, дзе асудзілі іх на смерць. Пасля іх памілавалі і папу Марціна саслалі на Каўказ у Херсон, дзе ён памёр у 655 г., а Максіма — у Тракію. Яшчэ пры жыцці Марціна I быў выбраны новы папа Яўгеній I (654—657). Папа Яўгеній згадзіўся прыняць формулу імператара і закончыць схізму, але не надоўга, бо ў 655 г. папа Яўгеній адкінуў „Сінадальны ліст" візантыйскага патрыярха Пятра (652—665) і зноў пачалася схізма. Сувязь з Канстанцінопалем наладзіў новы папа Віталій (657—672) і памірыўся з патрыярхам Пятром. У 663 г. імператар Канстант паехаў са сваім сынам у Рым, дзе яго папа прыняў як свайго пана і ўладара. Да канца панавання Канстанта II паміж монафелітамі і прыхільнікамі Халкідона існавала перамір'е. У 663 г. імператарам стаў сын Канстанта II, Канстанцін IV (668—685), названы Барадатым, а па-грэчаску Паганатам. Ён пасля доўгіх спрэчак і перагавораў з рымскімі папамі дамовіўся з папам Агафонам (678—681) і склікаў у 680 г. VI Усяленскі Сабор у Канстанцінопалі, на якім асудзілі монафелітызм і папу Ганорыя I, якога назвалі ерэтыкам. Больш дзесяці стагоддзяў пазней справа асуджэння папы Ганорыя I прычыніла многа клопатаў прыхільнікам тэзіса аб беспамылковасці папаў і перавагі аўтарытэту папы над Саборам.

**Д. ШАТЫЛОВІЧ**

# КРЫЖЫ ЯДНАННЯ

І я, як Гандзя Кандрацюк, пабываў у аколіцах Сейнаў і Пуньска. Быў на камандзіроўцы ў Сувалках. Было цудоўна, зялёна, цёпла, і трохі часу выкарыстаў я не на службовыя справы. Цікавілі мяне літоўскія мясцовасці.

Сейны — прыгожае мястэчка. Штодзённасць яго крыху санлівая, як кажуць, „запыселая", але затое гісторыя вельмі цікавая. У гадах 1919—1944 мянялі яны не раз дзяржаўнасць. Палякі пераймалі яго чатыры разы, раз бралі рускія, два разы немцы і тры літоўцы. Здаралася, што сусед ішоў на суседа. У 1919 годзе Сейны 11 раз пераходзілі з рук у рукі. Апошняя бітва вырашыла, што Сейны цяпер у Польшчы.

У базыліцы нараджэння Маці Божай ужо некалькі год набажэнства гучыць па-літоўску. Гэта мае вялікае значэнне для некалькітысячнай меншасці групы літоўцаў у Польшчы. Сейны — найстарэйшы цэнтр літоўскай культуры, перш за ўсё літаратурнай і выдавецкай дзейнасці. Тут пад канец мінулага стагоддзя тварыў біскуп Антон Бараноўскі (Antanas Baranauskas), аўтар літоўскага эпасу, падобнага „Пану Тадэвушу".

Фігура Маці Божай Сейненскай — цудоўная разьба шафкавая з ранняга сярэднявечча. У 1975 годзе яе каранаваў кракаўскі кардынал Караль Вайтыла.

У Сейнах пачаткі літоўскія і польскія прыгожа пераплятаюцца. Найлепш гэта відаць на сейненскім могільніку. Тут ёсць розныя імёны і прозвішчы. Тут і Якубоўскі і Петрушкевіч, і Jakubauskas і Petruškevičus. Знакам гэтага месца ёсць адзінокія крыжы з характэрнымі прамянямі маланак. Гэта рэлікт часоў яшчэ язычаскіх (не сустрэнем такіх на магілах праваслаўных беларусаў). Тут яны выглядаюць як крыжы яднання.

Літоўцы жывуць з пачуццём крыўды і пагрозы асіміляцыі. Не толькі гэтыя з Пуньска, Сейнаў ці Шыплішак. Так ёсць заўсёды з малымі народамі, стагоддзямі прыніжанымі. Але літоўцы, цыганы, беларусы, украінцы маюць і вялікае пачуццё сваёй нацыянальнай годнасці, якое не дазволіла адысці гэтым народам у нябыт. Памятаюць, што здарылася перад стагоддзямі з блізкімі літоўцам народамі — яцвягамі і прусамі. Усе балты стагоддзямі абараняюцца перад знішчэннем.

Цяпер у наваколлі Сейнаў не чуваць пра нейкія нацыянальныя звады. Людзі хочуць жыць у згодзе, з гонарам. Лёгка знішчыць раўнавагу, нарабіць бяды. Не ўсе людзі такія пачцівыя, як Ігнат Дзярмэйка з Пуньска, які сказаў мне, што ў небе ў Пана Бога няма падзелаў — на літоўца, на паляка, беларуса, украінца, цыгана... Усе перад ім роўныя.

**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**

# З МІНУЛАГА НАРАЎКІ І АКОЛІЦ

## Частка III

### Змены ў структуры асяроддзя

У міжваенны перыяд сельская гаспадарка на абшары гміны Нараўка была на вельмі нізкім узроўні, надта раздробленая, з цераспалосіцай і трохпалёўкай. Каля 80% зямлі — гэта грунты V і VI класаў. Палова абшару знаходзілася пад лясамі, у значнай частцы пад Белавежскай і Лядскай пушчамі.

У трыццаці вёсках і вёсачках пражывала беларускае насельніцтва, а ў мястэчку, якое з'яўлялася цэнтрам гэтага раёна, жылі прадстаўнікі трох нацыянальнасцей: палякі, беларусы і яўрэі. Прамысловасць абмяжоўвалася да шклозавода ды шкіпінарнага (тэрпэнтынярні) і цагельнага заводаў. Больш шырока было развіта рамяство, асабліва кавальства, кравецтва, шавецтва, дойлідства, ганчарства, бандарства і стальмаства. Гандаль поўнасцю знаходзіўся ў руках яўрэяў. Асновай утрымання вясковага насельніцтва была праца ў сельскай гаспадарцы і дадаткова — у лесе, пры сплаве дрэва, а таксама рамяство.

Надбудовай у гэтым рэгіёне было некалькі ўстаноў і пару грамадска-палітычных арганізацый. Сярод установаў былі: гмінная ўправа, пошта, пастарунак паліцыі, надлясніцтва, шэсць школ, у тым ліку адна сямікласная ў Нараўцы, дзве праваслаўныя і адна каталіцкая парафіі. Фармальнымі арганізацыямі былі: „Стшэлец", Саюз лясных рабочых, Саюз польскіх гарцэраў, Саюз рэзервістаў (адстаўнікоў).

Улады даваеннай Польшчы не былі зацікаўлены ў развіцці грамадска-палітычнай актыўнасці вёскі, не прымянялі сродкаў матэрыяльнай зацікаўленасці для разбуджэння гаспадаркі ў гэтым асяроддзі. Таму не было асновы да паўстання груп прадпрымальнікаў.

Фармальныя групы ў сваіх прадпасылках мелі розныя мэты. Арганізацыі ваенізаванага характару, напрыклад, „Стшэлец" і Саюз рэзервістаў, інспіраваліся тагачаснымі ўладамі і ахоўвалі буржуазны лад, набіралі членаў у гэтыя арганізацыі з вышэй пастаўленых колаў грамадства.

Саюз лясных рабочых асноўнай мэтай сваёй дзейнасці ставіў барацьбу з англійскай фірмай „Сэнчэры" („Century"), якая эксплуатавала пушчу. Намагаўся ён захаваць заробкі за працу ў лесе, бо фірма ўвесь час імкнулася іх зменшыць з-за вялікага збытку рабочай сілы.

Сярод польскай нацыянальнасці сфармаваліся дзве групы. Адна з іх — гэта група людзей з высокім прэстыжам і аўтарытэтам, інакш: група ўлады. Да яе належалі: войт і сакратар гміны, камендант пастарунка паліцыі, ксёндз, кіраўнік школы, надляснічы, лекар, аптэкар і начальнік пошты. Другую групу складалі перш за ўсё прыезджыя рабочыя шклозавода.

Цалкам іншай групай з'яўлялася яўрэйская абшчына. Яна праяўляла сябе як прадпрымальніцкая. У яе руках знаходзіўся ўвесь гандаль.

Група беларускай нацыянальнасці займалася паслугамі. Гэта былі пераважна малазямельныя сяляне, якія апрача працы на сваёй малой гаспадарцы, займаліся падвозам тавараў у крамы, перавозам пошты, сезоннай працай у лесе, конным транспартам для прадстаўнікоў мясцовых улад, а таксама перапраўкай плытоў цераз плаціну ў Нараўцы. Гэтая група не мела ўмоў да вывучэння роднай мовы ў школах і развіцця свае культуры. Толькі фальклор з'яўляўся для гэтай групы формай існавання яе культуры і дакументам для наступных пакаленняў.

Адной з каларытных груп былі плытнікі („арэлі"). Яны працавалі толькі ў сезоне, у час высокай вады ў рэках (асабліва вясною, як толькі рушыць лёд на рэках). Гэтая група была баявой у барацьбе з купцамі за ўтрыманне заработнай платы. Плытнікі часта баставалі. Купцы былі зацікаўлены ў тым, каб пакуль ападзе вада ў рэках, як мага болей сыравіны вырваць з пушчы. Да ліквідацыі забастовак ангажавалі паліцыю.

Багатыя гаспадары карысталіся наёмнай сілай пры рабоце на сваіх вялікіх гаспадарках. Да гэтай работы ішлі шматлікія сем'і з малазямельных гаспадарак. Гэтым групам была ўласціва нізкая грамадская свядомасць, свайго „пана" яны лічылі дабрадзеем, ахвотна яму памагалі і выступалі ў яго абарону.

Вельмі многа груп у тым часе ўзнікала на аснове супрацоўніцтва, узаемнай дапамогі пры сезонных працах і працах, што вымагаюць большай колькасці людзей. Іх дзейнасць праяўлялася суполькай малацьбой, капаннем бульбы, сенакосам, святкаваннем сямейных урачыстасцей.

Сярод жанчын такія групы паўставалі пры апрацоўцы ільну. Неабходна заўважыць, што жанчына ў тыя часы была вельмі пакрыўджанай. Яна несла найбольшы цяжар абавязкаў у сям'і і гаспадарцы. Яна займалася нарыхтоўкай ежы, выхоўвала дзяцей, найбольш працавала пры жніве, абгортванні і капанні бульбы, у барацьбе з пустазеллем і пры ўборцы сена. У грамадска-палітычным жыцці жанчыны не прымалі ўдзелу.

* * *

У параўнанні з часамі міжваеннай Польшчы карэнныя змены наступілі ўжо ў першыя гады ў Народнай Польшчы. Надалей асталася ў сяле прыватная ўласнасць зямлі і іншых сродкаў вытворчасці. Яна карыстаецца вялікім уплывам у грамадскіх суадносінах. Новыя пераўтварэнні, якія адбываюцца на вёсцы, з'яўляюцца вынікам палітыкі народнай улады. Яны мелі асаблівы характар на абшары Нараўчанскай гміны. Гэты рэгіён пасля вайны ўсё пачынаў амаль з нуля. Нямецкі акупант, баючыся партызанаў, якія дзейнічалі ў Белавежскай пушчы, цалкам знішчыў 26 вёсак. Мясцовае насельніцтва вывез у Беласток або ў Германію. Пакінуў толькі мястэчка Нараўку і тры вёскі, жахароў якіх выкарыстоўваў як рабочую сілу ў лясных работах.

Пасля вайны на вёску паступова пачалі ўваходзіць: асвета, электрыфікацыя, механізацыя, пачынае развівацца будаўніцтва. Пабудавалі сучасны керамічны завод у Старым Ляўкове ды перагрузачны пункт у Семяноўцы. Дзякуючы стварэнню новых месц працы па-за сельскай гаспадаркай, затрымалася далейшае драбленне гаспадарак. Былі асушаны багны. Ва ўсе вёскі праведзена электрычнае святло. Знікла непісьменнасць.

З 1949 года ў школах уведзена навучанне беларускай мовы, а з 1956 года дзейнічаюць гурткі Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Сярэднезямельныя сяляне былі найбольш актыўнымі і найхутчэй ліквідавалі ваенныя разбурэнні ў сваіх гаспадарках, найлепш пабудаваліся і сталі рацыянальна гаспадарыць.

Група малазямельных сялян будучыню для сябе бачыла ў спалучэнні працы на сваім з працай па-за сельскай гаспадаркай. Сяляне з гэтай групы знаходзіць дадатковую работу ў лесе і на чыгунцы. Частка з іх ідзе да працы ў дрэваапрацоўчай прамысловасці і ў жыллёвым будаўніцтве ў Гайнаўцы. Гэтая група пераўтварылася ў групу сялян-рабочых. Мяняецца таксама стыль жыцця гэтай групы, яна засвойвае гарадскія звычкі.

Становішча вясковых жанчын змянілася карэнным чынам. Арганізоўваліся гурткі вясковых гаспадыняў. Жанчыны аб'ядноўвае суполькае імкненне рацыянальна карміць сям'ю, належна выхаваць дзяцей, вырасціць раннюю гародніну ці выгадаваць хатнюю птушку.

Змянілася сітуацыя ў нацыянальных групах. У выніку гітлераўскага генацыду перастала існаваць яўрэйская нацыянальная група. Пачалі згладжвацца межы, у значэнні нефармальных груп, паміж нацыянальнасцямі польскай і беларускай. Паўстала група інтэлігенцыі з аднолькавымі правамі без падзелу на палякаў і беларусаў. На рост грамадскага статусу і прэстыжу ўплываюць адукацыя, працавітасць, ініцыятыва, заангажаванне.

*(заканчэнне будзе)*

**ЯНКА ЦЕЛУШЭЦКІ**

# УЛАДЗІМІР КЛІШЭВІЧ — ПАЭТ РЭФЛЕКСІЎНЫ

## Частка XI

У часе знаходжання паэта ў пасляваеннай Германіі выразна апанавала яго пачуццё бязвыхаднасці і тупіка. Не думаю, каб прычынай такога духоўнага стану была звычайная бясхлебіца. Зразумела, што варункі бытавання ўцекачоў у пераможанай Нямеччыне не былі надзвычайныя. Але, здаецца мне, што былі яны лепшыя чым тыя, якія панавалі ў пасляваеннай Беларусі. І таму прычын песімістычнага настрою паэта трэба шукаць не ў матэрыяльнай сферы, а толькі ў сферы духоўнай. Выгнаны вайной з роднай зямлі, адчуваў сябе Клішэвіч як у пастцы. Зрэшты, такога тыпу адчуванні знайшлі адназначнае выяўленне ў яго вершах. У творы, які пачынаецца ад слоў: „Хочаш, плач ці душыся ад смеху" паэт адназначна асудзіў той стан, у якім ён апынуўся.

*Хочаш, плач ці душыся ад смеху —*
*Не ўцячэш ад праклятай бяды.*
*На апошні паўстанак прыехаў.*
*Болей ехаць няма куды.*
*Ад утомы і коні сталі.*
*Хмары, цемра, няма дарог.*
*Гляную я на турэмныя далі.*
*Камень цяжка на сэрца лёг.*
*Не стрымаць ні сарказму, ні смеху,*
*Многа поўзаў сюды і туды.*
*На апошні паўстанак заехаў.*
*Болей ехаць няма куды.*

Прыведзены верш узнік на пачатку 1948 года, калі паэт напэўна многа ведаў аб узроўні жыцця ў Беларусі і аб самаволі ўнутраных органаў у праследаваннях так званых гітлераўскіх прыслужнікаў. Зразумела, што не магло быць гутаркі аб бяспечным вяртанні на радзіму. Пры гэтым далейшае знаходжанне ў разгромленай Германіі не стварала ніякіх жыццёвых перспектыў. Вось з гэтых прычын і паявілася ў настроі паэта пачуццё бязвыхаднасці, якую акрэсліваe ён у вершы „апошнім паўстанкам". Мабыць пасляваенная бясхлебіца была істотнай прычынай такога настрою, але не адзінай. З'явай, якую балюча ўспрымаў і перажываў паэт была абыякавасць акружаючага яго свету да таго, што было для Клішэвіча духоўнай справай. Зразумела, што гутарка ідзе тут аб паэзіі.

Пазбаўлены духовай раўнавагі паэт драматычна пытаў, ці паэтычная творчасць сярод абыякавага грамадства мае ўвогуле сэнс.

*Навошта я пішу, хто мае ў тым*
*патрэбу?*
*Марную час, сцякае кроў чарнілам.*
*Рука галоднага працягваецца*
*к хлебу.*
*Рука багатага у кашальку застыла.*

У далейшых фрагментах верша аўтар канстатуе, што яго радкі нікога не цікавяць і што людзі „ад мяне як ад чумы ўцякаюць". Калі нават прымем, што ў такіх фармулёўках маем дачыненне з паэтычнай гіпербалікай, дык і так мусім пагадзіцца з думкай, што такія словы і акрэсленні не нараджаюцца ад салодкага жыцця.

Настроі смутку, песімізму, суму праявіліся таксама ў вершы „У дзень нараджэння", напісаным 27 лютага 1948 года. Толькі глыбокай раздражненасцю і незадаволенасцю жыццём можна тлумачыць драматычныя настроі чалавека, якому „выбіла болей за трыццаць". Аднак вядома, што вострае адчуванне драматызму прамінання часта выступае ў маладых людзей, асабліва тады, калі ў іх жыцці складаецца ўсё не так, як хацелася б. А з такім станам рэчаў маем дачыненне ў выпадку пасляваеннага жыцця Уладзіміра Клішэвіча, які ізноў апынуўся паміж молатам і накавальняй.

У другой палове 1949 года духоўны стан паэта не паляпшаецца. Знаходзячыся напярэдадні выезду з Германіі ў Амерыку паэт канстатуе:

*Дзе толькі не стагналі мы!*
*Я з болем часта ўспамінаю*
*І воды мутнай Калымы,*
*І хвалі сіняга Дунаю.*
*Перада мной стаяць дамы,*
*Высока цягнучыся ў неба.*
*Чаго не спрабавалі мы,*
*Каб толькі мець кавалак хлеба!*
*Бязлітаснасць жыцця зямлі!*
*Ты слова добрага не варта,*
*Каб на страшэнным караблі*
*Трымацца так цябе упарта.*

Канчаючы характарыстыку творчасці Клішэвіча нямецкага перыяду, варта падкрэсліць, што, нягледзячы на сумненні і песімізм, здолеў ён выразна ўдасканаліць мастацкія прыёмы сваіх вершаў, узбагаціць іх фармальныя сродкі. Паглыбілася ў іх таксама асноўная рыса яго паэтычнай спецыфікі — рэфлексіўнасць. Не знікла з іх ранейшая эмацыянальнасць і пачуццёвасць, якія падыходзяць кожнаму паэту.

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

# ТАЯМНІЦЫ НАЗВАЎ

*Я хацела, ужо ў дзяцінстве, даведацца, чаму Семяноўка называецца „Семяноўкай"? Чаму на „Конскай грэблі" страшыць? Што зрабілі з будынкамі панскага двара, калі перастала існаваць паншчына?.. Ніколі не ўдалося мне пра гэта і шмат чаго іншага даведацца. Але мара высніць усе гэтыя справы ў мяне засталася.*

Так пісала Аўрора ў 41 нумары „Нівы" ад 10 кастрычніка 1993 года. Я са свайго боку хачу прыгадаць, што пра назвы нашых вёсак дэталёва пісаў праф. Міхал Кандрацюк у сваёй дысертацыі „Назвы мясцовасцяў паўднёва-ўсходняй Беласточчыны". Пра вёску Семяноўка піша ён, што ў актах ад 1634 года выступае назва „Семёноўка". Гэтакі самы запіс сустракаецца ў рукапісах ад 1775 года, якія захоўваюцца ў Бібліятэцы Чартарыскіх у Варшаве. Аднак у рукапісах ад 1789 года запісана „Семеноўка".

У алфавітным паказальніку назваў мясцовасцяў у Польшчы ад 1924 года знойдзем „Семёнуўку". Сённяшняя назва „Семяноўка" ўведзена пасля другой сусветнай вайны. Назва вёскі прыналежная, ад асабовай Сямён; Семян (царкоўнае імя Сімеон, польскае імя Шымон).

А на „Конскай грэблі" сапраўды страшыць. Калі я вяртаўся апоўначы з танцавальнай вечарыны з Семяноўкі ў Ляўкова (было гэта недзе ў 1965 годзе), мяне напужала сава. Відаць нядрэнна напалохала, калі і да сённяшняга памятаю гэта.

**ЯНКА ЦЕЛУШЭЦКІ**

# НА СВАІМ

— Ну то я вам раскажу, як нам тут у глушы жывецца. Я сама старая, то мне ўжо не да жыцця, не то, што раней, як жылі мой чалавек і сын. А тут во я так сама калякаю, прыглядаюся, як іншыя жывуць. Каму ў чым-лень дапамагу, другія мне штось дадуць... Кругом лес, панімаеш, лес мае палоскі зарос, ладны ўжо маладняк, у чалавекі два ростам будзе. Усё вышэйшай сцяной хутар мой ад вёскі гэтым лесам аддзелены, бачыш. Найбліжэйшая мне — Марылька. Як прывёз яе Федзя за жонку, адразу мне яна спадабалася. Рабацяшчая вельмі. Не ўсядзіць ні хвіліны. Добрая маладзіца, ветлівая, спакойная. Казалі, бацька-*анкаголік* моцна яе біў, матка спаралізаваная гадоў з 20 ляжала, то ўся гаспадарка была на Марыльцы, найстарэйшая ж была, і выхаванне сясцёр і братоў, а іх было як гарбузянят. Федзік, можа, і таму яе браў, што спраўная ў гаспадарцы, і недурная паненка, бо гадоў пад трыццаць... Ды і яму каля сарака, бо дзяўчыну на жонку ў наш час цяжка знайсці. Голую браў, як той казаў, у адной сукенцы, бо ў страшнай галечы Ракіцкія жылі — што бацька прапіў, што сыны на гарэлку з хаты павыцягалі (во, бачыш, які прыклад стары сынам даў!). Апошнюю людскую сукенку матцы Марылька ў труну аддала. Крыху цётка з Беластока анучак прывезла, сваёй дачцэ падабрала, трохі новага братанкі купіла з пенсіі. Ну так Марылька і прыйшла ў нашу вёску, на суседні з маім хутар.

Ой, добра я ведала, у якую хату яна трапіла! Бытта людзі някепскія, ну, як усе, цягавітыя да працы, хоць, праўда, не ўсё ім спарылася, ды якіясьці... як ваўкі. Дзіўныя. Прыйдзе старая Маланка да мяне дахаты, дзень добры скажа альбо і не, але перагляне табе ўсё ў кутках. Альбо зойдзе на панадворак, лазіць, ходзіць, заглядае, а наш сабака на будку ўзлезе, аж заходзіцца. Тупне на яго Маланка, кіне каменем, як на свайго. Думаю, спушчу яго на гадаўку, хай пакажа, хто тут гаспадар, але ж не, усё ж такі — суседка, прыйдзецца жыць з такою да смерці...

Як Марылька хадзіла першым дзіцём, то Маланчына дачка прывезла нейкія таблеткі ад знаёмага лекара з Бельска, ну і ўкінула ёй тую атруту ў суп, каб дзіця выкінула. Ї страціла дзіцятка Марылька, і сама мала не памерла ў шпіталі ў Беластоку, куды яе скорая на сігнале павезла. Ледзь яе адратавалі, бо плод ужо гніць пачаў. Ой, рады былі пэўна Маланка з дачкою! Маланка хадзіла, хадзіла па полі і лесе, як нявестка ў шпіталі была, і, сама я чула, прыгаварвала: „Ой, не думай ты, што будуць у цябе дзеці, што ты тут на маім укаранішся! Дам я табе такое, што ніводнага не народзіш!"

Ї не было б зусім Марыльцы жыцця ў хаце, але муж рашыў аддзяліцца ад бацькоў. Зрабілі старым у каморы пакой немалы, адрамантавалі, вокны вялікія, светлыя ўставілі, а самі — у другім пакоі з кухняй. Марылька нарадзіла Бажэнку. Як ні старалася Маланка, каб не дапусціліся больш дзяцей! Казала: „Ты, Марылька, хадарлявая такая, яшчэ нам памрэш пры родах, ці што, а хто тваіх байструкоў гадаваць будзе?!" Але Марылька паздаравела. Федзя з ёю добра абходзіўся, шкадаваў, у гаспадарцы ўсё лепш ішло, расло ўсё, гадавалася... На здзіў! Ї нарадзіла Марылька яшчэ дзве дзяўчынкі і чатырох сыноў.

Як не стараліся старыя нарабіць бяды нявестцы! Цяжарную схопяць, бывала, стары трымае за рукі, а Маланка дзвярыма старацца яе сціснуць! Хіба хацелі ёй так дзіцятка з жывата выціснуць?! Хоць старэчы нядужыя, а так ушчаперацца, моцы такое ад нянавісці набяруцца, што, не паверыш, маладзіца ім не дасць рады! Потым Марылька тыдзень не магла нічога рабіць у хаце, падаіць кароў. Памёр Федзеў бацька, бо старэнькі, нямоглы быў у свае 84 гады. Маланка на ўсю вёску загаласіла, што атруціла яго нявестка. Не хацела ад яе потым узяць ні кавалачка хлеба, ні кроплі малака.

Маланцы ішло ўжо на 88 год, але жвавая, усё за грыбамі па лесе хадзіла, прадавала. Прыйду я да Марылькі, каб з ёю ў лес пайсці, бо з ёю і паразмаўляеш ад сэрца, такая людская, спагадлівая, разумная кабета, што і часу не страціш, калі нават ні грыбочка не знойдзеш, і лягчэй неяк на сэрцы робіцца. Ї не наракала Марылька, пра сваю бяду ніколі слова не сказала. А Маланка за намі прэцца, крычыць: "Ты, старая акулярніца, чаго ты тут шукаеш, шпігуеш? Сядзі за сваёю хваінаю, хто цябе сюды прасіў?! Збяруцца дзве чараўніцы і ўсё думаюць, як мяне звесці з белага свету!" Праўду кажучы, то страх было пакідаць дзяцей саміх у хаце, бо бабе бралася на дурныя жарты: а то серпікам па ножцы малому спаласне, а то макавіннем з цукрам пачастуе ці воўчай ягадай... Казала я Федзю, каб завезлі матку да псіхічнага доктара, бо ці ж яна нармальная? А хто ж хоча, каб ягоная маці ў Харошчы была! Ён хіба ёй і сказаў пра маю параду, бо Маланка так мяне зненавідзела, што пачала камянямі лупіць, як толькі пакажуся на сцежцы.

Марылька не толькі гаспадаркай займалася ды дзецьмі. Не маглі нахваліцца людзі ва ўсёй гміне — дзе не ўдасца нікому, Марыльку паслаць можна; яна і з ураднікам паразмаўляе як роўны з роўным, а калі трэба, дойдзе нават да ваяводства ці нават і Зялінскага, ніхто не напалохае. Не баіцца, умее справу лагічна „вылушчыць", разбіраецца ў палітыцы, гаспадарцы, справах вёскі. Дзякуючы ёй хоць бы дарогу зрабілі ў нашу вёску, і да грамадскага пачыну не раз нас заахвоціла, нават такіх старэчаў, як я. Хацелі мы яе выбраць у самаўрад, але часу ж у яе няма — гаспадарка ж вялізная, дзяцей як гароху. Дзеткі дагледжаныя, добра вучацца, толькі нервовыя, баязлівыя.

У апошнюю зіму выбралася Маланка пагасцяваць да другое дачкі, у Бельск. Памятаеш, такія маразы моцныя ўзяліся ў лютым? Во-во, само тады. Федзевы думалі, што маці пераначуе ў Бельску, але не. Аўтобус давёз яе да нашай дарогі. Холадна ёй, пэўна, было, адкаркавала бутэльку, што дачка ёй дала. Надпіла крыху, пагрэлася. Памаленьку апаражніла паўпляшкі.

Знайшоў яе Антось Пілінаў, што раніцай збіраў ад гаспадароў конаўкі з малаком у злеўню. Конь захроп, запырхаў ды стаў, як укапаны. Антось злез з шытак. Маланка сядзела ў сумёце, абняўшы калені, з бутэлькай у заснежанай далоні, быццам спала. Побач стаяў, выструніўшыся, іхні Бобік. Калі ўбачыў суседа, вяла махнуў хвастом і пабег у лес па сваіх справах.

Маланка памерла сто метраў ад сваёй сялібы, якое так не хацела аддаць „чужой".

Запісала
**МІРА ЛУКША**




*З МАНАСТЫРСКАЙ КУХНІ*

**САЛАТА З КАПУСТЫ**

Прадукты:
*1/2 качана белай ці чырвонай капусты, соль;*
для соусу:
*3 лыжкі фруктовага воцату,*
*2 лыжкі алею,*
*1 сыры жаўток,*
*1 чайная лужачка гарчыцы (муштарды),*
*крыху цукру.*

Капусту тоненька нашаткаваць, пасаліць і паставіць на некалькі гадзін, каб змякчэла і пусціла сок. Перад самай падачай заправіць капусту соусам, нарыхтаваным з пералічаных прадуктаў, збітых у міксеры.

**ГАСПАДЫНЯ**

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Дарагі Астроне! Які ж дзіўны сон мне прысніўся! Хаджу я з сяброўкамі па кватэрах, быццам бы нейкія службовыя справы афармляю. Але куды не зойдзем, усюды ёлкі стаяць, зялёныя, а на іх лямпачкі каляровыя свецяцца. Усё выглядае вельмі прыгожа.

А яшчэ прыснілася такое, што і пісаць сорамна. А тут цікава ведаць, што абазначае такі сон. Дык вось, іду я па вуліцы і нясу... гаўно! Падсохлае яно крыху. Ї вывалілася яно ў мяне з рук на вуліцу. Я хутка хачу яго прыбраць. Падмятаю, каб і знаку не асталося.

**Надзя**

Шаноўная Надзя! Твае сны даволі складаныя. Значыцца, складаныя яны ў супастаўленні аднаго з другім. Першы сон, пра тыя ёлкі, прыбраныя, праўдападобна і з каляровымі лямпачкамі, святочныя, абазначалі б для цябе нешта вельмі добрае. Мяркую, што чакае цябе нейкі прыбытак або наогул поспех у тваёй гаспадарцы.

Што датычыць другога сну, дык ён прадвяшчае табе непрыемнасць. Экскрэменты людскія ці жывёльныя сняцца — напэўна нехта свінню падложыць. Пэўна, будуць клопаты пры дасягненні нейкага прыбытку. На пацяшэнне табе магу сказаць, што, праўдападобна, дасі сабе рады з усімі праблемамі, бо і тое, што ты несла, было падсохлае, ды і прыбраць яго з зямлі, калі вывалілася з тваіх рук, табе ўдалося.

**АСТРОН**

# ДВУХЛІТАРНАЯ КРЫЖАВАНКА

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | 2 | | 3 | | 4 |
| | ■ | 5 | 6 | | ■ | |
| 7 | 8 | ■ | | ■ | 9 | |
| | 10 | | | | | |
| 11 | | ■ | | ■ | 12 | 13 |
| | ■ | 14 | | 15 | ■ | |
| 16 | | | | 17 | | |

**Гарызантальна:** 1. жаночае імя, 3. горад, цэнтр Хакаскай аўтаномнай вобласці або прыток Енісея, 5. жыве з міласціны, 7. цемра, 9. прылада для гладжання тканіны, 10. ненавіснік славян, 11. паказвае шлях караблям, 12. прыток Волгі, 14. адходы, непатрэбныя рэшткі, 16. волат, 17. лодар.

**Вертыкальна:** 1. абутак плецены з лыка, 2. чорная ў коміне, 3. старажытны лічыльны прыбор, 4. плод трапічнай расліны, 6. вялікі ваенны карабель, 8. грыб з ліпкай шапкай, 9. электрычны засцерагальнік, 11. вялікі горад на поўдні Індыі, 13. напр. скульптар, 14. уласцівасць ежы, якая адчуваецца падчас яды, 15. не душа.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на віраванку з 18 н-ра:** сейм, клей, алей, удой, змей, яйцо, яйка, сейф, край, іней, гной, слой.

Кніжныя ўзнагароды атрымоўваюць: **Мікалай Сазановіч** з Навінаў Вялікіх і **Аляксандр Дабчынскі** з Беластока.

Ніва

**"Niwa"**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1994 r. upływa 20 sierpnia 1994 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na IV kwartał wynosi 52 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 9000 zł., a kwartalnie - 117000 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

## ПІСЬМЕННІЦКІЯ БЫЛІ І НЕБЫЛІЦЫ

### ПРАДБАЧЛІВЫЯ ЖАРТАЎНІКІ

У часе вучобы Адама Мальдзіса ва універсітэце яго аднакурснікі напісалі і павесілі такую аб'яву: „Хто знайшоў 15-ы том збору твораў Адама Мальдзіса, просьба вярнуць у бібліятэку”.

Прачытала аб'яву адна студэнтка і падумала: Адама Міцкевіча я ведаю, а Мальдзіса, які напісаў пятнаццаць тамоў, зусім не чытала. Пайшла ў бібліятэку. Супрацоўнікі праверылі па картатэцы і сказалі, што ёсць працы Мальтуса, і то яны ў спецфондзе, а кніг Мальдзіса няма ні там, ні ў самой бібліятэцы.

Не ведала студэнтка, што сюды трэба прыйсці праз гадоў сорак, калі ў Адама Мальдзіса сапраўды будзе выдадзена пятнаццаць кніжак.

### БАБУЛЬЧЫНА ЗДЗІЎЛЕННЕ

Ідзе чарговае штогоднее літаратурнае свята на радзіме Якуба Коласа. Першы прамоўца зачытвае вядомыя радкі паэта:

*Мой родны кут, як ты мне мілы!..*
*Забыць цябе не маю сілы!*

Гэтыя самыя радкі цытуе другі прамоўца, трэці, чацвёрты...

Бабуля слухае іх і прамаўляе:

— Гэта ж трэба, выходзіць, што Колас напісаў усяго адзін вершык, а як багата людзей тут назбіралася.

**АЛЯКСЕЙ ГАРДЗІЦКІ**
**(„Полымя”)**







*— Вучыся, сынок, у жыцці ўсё згадзіцца.* Мал. А. Гуцола

## С Е Н Т Э Н Ц Ы І

Гальштук для мужчыны выдумала жанчына, калі вяла сабаку на павадку.

* * *

Балбатанне — гэта порхаўка, фаршыраваная бяссэнсіцай.

* * *

Сцэна — для ігры акцёраў, а не для выпрабаванняў алхімікаў.

**БАРЫС РУСКО**

## СМЕХ У САНАТОРЫІ

Прыходзіць баба да лекара:
— Выпішце мне радыкальны сродак ад атлусцення.
— Гэта вельмі проста: ешце тры разы ў дзень сухары і запівайце шклянкай таматнага соку.
— Дзякую, не ведала, што гэта такое простае! Толькі скажыце, ці гэтыя сухары прымаць перад ці пасля яды.

* * *

Прыходзіць баба да лекара:
— Пан доктар заўсёды мерыць артэрыяльны ціск, слухае пульс і акцыю сэрца, а ніколі не спытаецца, як я сябе адчуваю...
— А як вы чуецеся?
— Ой, пан доктар, лепш не пытайце!..

* * *

Прыходзіць баба да лекара:
— Пан доктар, мая праблема — гэта вялікія сексуальныя патрэбы.
— Трэба вам выйсці замуж...
— Я ўжо замужняя...
— То пашукайце сабе каханка...
— Маю...
— То вазьміце сабе другога...
— Маю, і другога, і яшчэ трох іншых...
— Гм, здаецца што вы сапраўды хворая...
— Пан доктар даражэнькі, умаляю вас, напішце гэта на паперы, бо мой муж гаворыць, што я б...!

* * *

Маладая замужняя жанчына скардзіцца лекару, што не можа зацяжарыць.
— Распранайцеся, — гаворыць лекар.
— Пан доктар, вы вельмі мілы чалавек, але я хацела б мець першае дзіця ўсё-ткі з мужам...

* * *

Фермер просіць ветэрынара выпісаць узбуджальны сродак для свайго бугая, які апошнім часам абяссілеў.
— Добра, а які сродак выпісваў я яму апошнім разам? — пытае лекар.
— Дык назвы не помню, але смакам нагадваў мяту...

* * *

— Пан доктар, калі пачынаю працу, зараз засынаю.
— А дзе вы працуеце?
— На авечкаферме.
— А што там робіце?
— Лічу бараноў.

* * *

— Памятайце, — асцерагае лекар хворага, — што гарэлка з'яўляецца вашым найбольшым ворагам...
— А я не такі зноў трус...

Даслаў
**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**

## У „МАЛЕНЬКІМ МЕНСКУ”




*Музыка Змітрака Яўтуховіча*
*Словы Міхася Кавыля*

У „маленькім Менску” ля Нью-Йорка
Ад відна да зорнае начы
Не змаўкаюць гутаркі, гаворкі,
Песня беларуская гучыць...

*Прыпеў:*

Бы ўцякачкі з пушчы Белавежы,
Сосны квола горы абнялі,
Каб надыхацца паветрам свежым
І ляцець да роднае зямлі. } 2 р.

З імі ўровень ясакары, клёны
Неба п'юць сівых вякоў настой.
Хочацца ісці у дым зялёны,
Пашукаць блакітных васількоў...

*Прыпеў.*

Не змаўкаюць гутаркі, гаворкі
Ад відна да зорнае начы.
У „маленькім Менску” ля Нью-Йорка
Песня беларуская гучыць...

*Прыпеў.*




Даражэнькае Сэрцайка! Я яго так кахала. Пазнаёміліся мы выпадкова, на нейкім фэстыне. Спадабаўся ён мне. Быў скромны, не лез з нейкімі брыдкімі прапановамі, паводзіў сябе ў адносінах да мяне, як звычайны сябра, з якім можна пагутарыць і пра кніжкі, і пра фільм. Я была з дзяўчатамі, а ён прыйшоў з сябрамі, але я нават не заўважыла, як мы засталіся толькі ўдваіх, а ўсе паразыходзіліся па лесе.

Хлопец правёў мяне дахаты і гэта быў пачатак нашай вялікай дружбы. Усю ноч не магла я заснуць: думала і думала пра яго. Чакала цярпліва таго дня, калі дамовіліся мы сустрэцца. Не ведаю, як гэта сталася: тады ж на фэстыне, ён паказаўся мне спачатку звычайным хлопцам, а цяпер у маім уяўленні быў проста прыгажуном.

Першыя сустрэчы не расчаравалі мяне, а яшчэ ўзмоцнілі зацікаўленне гэтым хлопцам. Ён быў вельмі далікатны і сардэчны ў адносінах да мяне. Пазнаёміў мяне з сваімі сябрамі — і яны аказаліся сімпатычныя.

Аднойчы, праводзячы мяне дахаты, нясмела пацалаваў мяне. І я ўжо ведала, што аддамся яму пры першай нагодзе. Але ён не спяшаўся. Замест таго, паведаміў мне, што неўзабаве выязджае вучыцца ў Беларусь. Мне стала крыўдна, што наша знаёмства можа скончыцца так хутка, і я расплакалася. Хлопец пачаў суцяшаць мяне, што будзе часта прыязджаць дахаты і тады будзем сустракацца. На канец сказаў, што нікога так не кахаў, як мяне. Мы пачалі цалавацца, ён прытуляў мяне штораз мацней, а слёзы ліліся ў мяне, як у дзіцяці.

У гэты вечар я аддалася яму. Зрабіла гэта, можа, ірацыянальна, бо ж ён выязджаў, усё можа здарыцца, а я зусім непатрэбна страчу сваё дзявоцтва... Але кахала я яго да такой ступені, што хацела даказаць гэта яму. І зусім не шкада мне было сваго так званага дзявоцтва.

Дзякуй Богу, што я не зацяжарыла, бо пра ніякія антыканцэпцыйныя сродкі я яшчэ не ведала. Проста зрабіла тое, што падказвала мне маё сэрца.

Хлопец паехаў вучыцца, а я засталася, перапоўненая горыччу ад нашага расстання. Больш мы з ім і не сустрэліся, былі блізка толькі адзін раз. Я спадзявалася, што ён хутка прыедзе, і ўсё будзе так, як было дагэтуль. Дарма! Прыехаў на зімовыя канікулы, але толькі на хвіліну забег да мяне. Сказаў, што надта спяшаецца. А я так разлічвала на гэту сустрэчу, так чакала яго. Мне стала страшна: што я нарабіла?! Цмокнуў мяне на развітанне ў шчаку і выбег.

Я выпытала пра яго ў адной сяброўкі, якая таксама прыехала на канікулы, а вучыцца разам з ім. Ну і даведалася! Ад лістапада ў „майго” хлопца ёсць пастаянная дзяўчына з яго курса, ды нават аказалася, што неўзабаве, як ёй здаецца, збіраюцца рабіць вяселле.

У мяне ў сярэдзіне ўсё пахаладзела. Як ён так мог! Гэта ж мяне ён кахаў, а не яе. Хто яна, адкуль узялася?! Якім правам!

Не ведаю, што мне цяпер рабіць. Ці прамаўчаць і з гонарам несці сваю крыўду, ці, можа, паехаць туды, у Менск, і пагаварыць з ім?

**Ася**

Ася! Баюся, што ў даны момант такая паездка магла б табе толькі пашкодзіць. Што табе яна дасць: ты нават не жонка, хаця і жонка ў пэўных акалічнасцях прайгрывае. Пакуль хлопец быў з табою, мо і яму здавалася, што ён цябе кахае, хаця гэта каханне ён не дэманстраваў так бурна, як ты. Мо таму, што збіраўся выязджаць і не быў упэўнены, што будзе, не рваўся, як кажуць, да цябе ў пасцель. Ты сама гэтага хацела, а гэта заўсёды пэўная рызыка. Вось ён знайшоў сабе там дзяўчыну, яна — побач з ім, штодзень. Яднаюць іх супольныя навуковыя справы, сябры, месца жыхарства. Слабая надзея на тое, што хлопец вернецца да цябе. Твая страта, бо відаць, што хлопец вартасны. Ты для яго была аднак толькі імгненнем. Найважнейшае — каб каханне было аднолькава моцнае з двух бакоў.

**СЭРЦАЙКА**